

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

17 САКАВІКА 2000г. № 11/4043 КОШТ 75 РУБ.


## ЗЯМЛЯ Ў БЯДЗЕ

***Анатоль СІЛЯНКОЎ: "У нашай вёсцы некалькі гадоў назад прабурылі скважыну — меркавалася праклacці водаправод. Яшчэ раней сюды падвялі газаправод. На гэтым усё і скончылася. Цяпер ужо некаму займацца бытам вёскі. Хоць ім і раней не надта займаліся. Эканамісты нездарма называюць вёску ўнутранай калоніяй. З яе прынята толькі браць і нічога не даваць узамен".***

**5, 15**

## ВЯРТАННЕ НАПЕРАД

***Нататкі Івана ШТЭЙНЕРА пра творчасць празаіка Алеся НАВАРЫЧА***

**6—7**

## БАЛАДЫ НЯСВІЖА

***Міколы МЯТЛІЦКАГА***

**8**

## КРУГІ ГАЛО́

***Апавяданне Леаніда ЛЕВАНОВІЧА***

**9, 12**

## СМАК ГОДНАГА ЖЫЦЦЯ

***Уладзімір БАЙДАЎ: "Усім, адказным за лёс беларускай музыкі, трэба імкнуцца да найхутчэйшага ажыццяўлення ідэі свайго міжнароднага фестывалю! Кантакты з іншаземцамі паспрыяюць таму, што нас будуць лепш ведаць, больш паважаць, часцей запрашаць да сябе і менавіта з нашай музыкай, на якую з'явіцца попыт".***

**10—11**

### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **300 рублёў**, на квартал — **900 рублёў**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **930 рублёў**, на квартал — **2 тысячы 790 рублёў**.*

**Наш індэкс — 63856.**



*Ф. Багушэвіч у Вільні. Мастак М. КУПАВА. 1979 г.*

*Не пакідайце ж
мовы нашай
беларускай,
каб не ўмёрлі!*

*Францішак Багушэвіч*

*Матэрыялы, прысвечаныя 160-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Францішка БАГУШЭВІЧА, чытайце на стар. 13—15.*



# КОЛА ДЗЁН

***Міжволі згадваецца папулярная калісьці казка пра дзяўчынку Алісу і пра дзівосную краіну Залюстэрчча, у якую яна трапіла. Згадваецца, бо ўражанне такое, што — ці не апынуліся мы ўсе ў гэтым самым казачным Залюстэрччы? Які ўжо год жывём у краіне, дзе ўсё дзеецца быццам наадварот. Павінны былі б багацець, дык не — бяднеем. Дэмакратыі, свабоды, самакіравання не большае, а — меншае. Нібыта сцвярджаем суверэнітэт і незалежнасць, а яны — усё больш пад пагрозай. Гаворым пра кансалідацыю, а ў грамадстве — супрацьстаянне. Заяўляем шматвектарнасць, а схіляемся больш у адзін бок. Беларушчына не адраджаецца, а — згортваецца. Вытворчасць нібыта расце, а цэны — акурат як у Залюстэрччы — таксама растуць. Змагаемся з п'янства, а п'ём — больш, сеем вясной многа, а восенню збіраем мала, і самых неабходных прадуктаў спажываем з году ў год меней. І самі, урэшце, не размнажаемся, як наканаваў Бог, а — выміраем...***

***Няйначай мы сапраўды трапілі ў зачараванае Залюстэрчча. Як выбавіцца з-пад чараў, як вярнуцца нам АДТУЛЬ — СЮДЫ, па гэты бок люстэрка, дзе ўсё ў нас будзе, як у людзей? Хто і калі ўзмахне чароўнай палачкай?***

## ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

14 сакавіка Беларусь займела новага прэм'ер-міністра. Ім стаў былы мэр Мінска Уладзімір Ярмошын. Працэдура зацвярджэння яго ў Палаце прадстаўнікоў мела фармальнае адценне: прапанаваная Прэзідэнтам кандыдатура была падтрымана амаль аднагалосна. На думку ўсіх, У. Ярмошын — добры, разумны і дасведчаны гаспадарнік, аб чым гаворыць хоць бы новае аблічча Мінска, які ўсё больш набывае выгляд еўрапейскай сталіцы. Адзін з так званых палатнікаў адзначыў, між іншым, і тое, што У. Ярмошын, як ён сказаў, сапраўдны мужчына, мужык. І амаль ні слова не было сказана пра якасці спадара Ярмошына як дзяржаўніка, пра яго адпаведнасць пасадзе кіраўніка ўрада акурат беларускай дзяржавы...

## МАРШ ТЫДНЯ

15 сакавіка наша краіна адсвяткавала Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У гэты дзень па вуліцах Мінска прайшоў "Марш Свабоды-2", які быў арганізаваны шэрагам апазіцыйных партый. У ім, на думку БТ, удзельнічала каля трох тысяч чалавек, па ацэнках Віктара Чыкіна — шэсць тысяч, па дадзеных расійскіх СМІ — ад 15 да 20 тысяч чалавек, а па словах саміх удзельнікаў маршу — 30 тысяч. Каму верыць?

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Павялічаны залогавы кошт шкляной тары — бутэлькі і слоікі на гэтым тыдні падаражэлі амаль удвая. Пэўная катэгорыя нашых бедных грамадзян, найперш бамжы-п'янтосы, гэтаму нават узрадавалася. А вось другое падаражэнне тыдня дзесяткі, сотні тысяч людзей засмуціла. Маецца на ўвазе павышэнне (роўна ўдвая!) кошту праезду ў электрычках. Дачнікам, усім "соткавым" людзям напярэдадні адкрыцця вясновага сезона гэта вельмі непрыемны падарунак. А падаражэў жа не толькі праезд, а і плёнка на цяпліцы, і ўгнаенні, і наша універсальная разліковая адзінка за ўсе сельгаспаслугі — паліўтэрка. Ці не адракуцца многія людзі ад сотак, ці не зарастуць яны асотам і быльнягом?

## ДАТА ТЫДНЯ

62 гады назад, 14 сакавіка 1938 года, руская мова была аб'яўлена абавязковай для вывучэння на ўсіх школах нацыянальных рэспублік былога СССР. Дата, як бачыце, не круглая. Аднак жа і яна просіцца на згадку. Бо руская мова шмат дзе стала не проста **абавязковай** для вывучэння, але і **адзінай**. Фактычна адзінай. Як, скажам, у нас, у БССР. Паўсюдна, лічы, за выняткам хіба жменькі вясковых сямігодак і дзесяцігодак, руская мова не толькі пацясніла беларускую, але й цалкам выціснула апошнюю. Зрэшты, сітуацыя і сёння практычна не змянілася, а калі і змянілася, дык не ў лепшы, на жаль, бок.

## МАЦЫЁН ТЫДНЯ

14 сакавіка ГРТ паказала калгасны кароўнік у расійскай глыбінцы — "за 100 кіламетраў ад фінскай мяжы". Тэлекарцінка, як кажуць, была ўразлівая: худыя, галодныя кароўкі стаяць па калена ў гнаі. Так бы мовіць, не карцінка, а сапраўднае "люстэрка рускай рэвалюцыі". Дый каб жа толькі рускай! У той жа дзень наша "Белорусская нива" апублікавала інфармацыю пад амаль што аптымістычным загалоўкам: "Бескормицу одолеет моцион?" Аб тым, што многія калгасы Чэрвеньскага раёна з першых дзён каляндарнай вясны выгналі свае статкі на пашу: карміць няма чым, дык хай хоць пашпацыруюць, свежым паветрам падыхаюць...

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Споўнілася сто гадоў з часу адкрыцця паблізу Оршы сельскагаспадарчай школы, папярэдніцы сённяшняга Смальянскага сельгастэхнікума. З ім звязаны імёны многіх вядомых у Беларусі людзей, сярод якіх — Васіль Купрэвіч, акадэмік і шматгадовы прэзідэнт АН БССР. Смальянскі сельгастэхнікум скончыў і былы Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мікалай Дземянцей, які ўвайшоў у нашу навейшую гісторыю сваім славутым выслоўем: "Шастой мікрафон!" Мікалай Іванавіч і сёння пры ўладзе, ён член Палаты прадстаўнікоў — прэзідэнцкага парламента, але сёння голасу яго не чуваць, і ад гэтага чамусьці яшчэ больш сумна. Усё ж ён быў неардынарнай, каларытнай фігураю перыяду аднаўлення беларускай дзяржаўнасці...

## ВЫПУСК ТЫДНЯ

Міністэрства фінансаў краіны аб'явіла аб першым выпуску аблігацый выйгрышнай валютнай пазыкі. Друк досыць актыўна абмяркоўвае гэтую падзею. Найбольш дыскутуецца пытанне аб тым, колькі валюты будзе прыцягнута ў бюджэт краіны, колькі не наогул сёння на руках у насельніцтва. Сумы называюцца розныя: ад аднаго да трох мільярдаў долараў. Гаворка ідзе пра насельніцтва, аднак жа ці правамерна гэтак гаварыць? У нашага насельніцтва, у пераважнай яго большасці, прынамсі, — аніякіх долараў няма, яно ледзь зводзіць канцы з канцамі. І гэтаму насельніцтву і сам выпуск аблігацый, і спрэчкі вакол гэтага, груба кажучы, да лямпачкі...

## РЭАЛЬНАСЦІ ТЫДНЯ

Тое, што справы з нашай сельскай гаспадаркай кепскія, не сакрэт. Ды, прызнаючы гэта, кажучы, так бы мовіць, "а", улады не гавораць "б". А сітуацыя не проста кепская, а безвыходная, тупіковая. Вось лічбы, узятыя з газет гэтага тыдня. Аб'ём прадукцыі сельскай гаспадаркі леташняга года ў параўнанні з 1990 годам склаў 65,7 працэнта. Па асобных галінах карціна яшчэ больш змрочная: збожжа і зернебабовыя — 52 працэнты ад аб'ёму 1990 года, ільновалакно — 40 працэнтаў. Скарацілася пагалоўе жывёлы: сёння мы маем толькі 53 працэнты кароў у параўнанні з 1991 годам, 43 працэнты свіней і 49 працэнтаў птушкі. Мо таму і вытворчасць мяса ў 1999 годзе склала толькі 46 працэнтаў ад вытворчасці 1990 года, малака — 50 працэнтаў... І нельга не пагадзіцца з высноваю аўтара артыкула "Апушчаны" лідэр" Я. Арлова ў "Белорусской газете" за 13 сакавіка: "У сельскай гаспадарцы краіны адлюстроўваецца ўвесь боль і сутнасць беларускага народа: жыць па старынцы, нарыхтоўваць дзесяткі слоікаў варэння, кансерваваць агуркі і памідоры, саліць капусту і сушыць грыбы, паціхеньку красці з калгаснага двара, пакрысе прадаваць ураджай з агарода на мясцовым рынку, скардзячыся на недахоп газавых балонаў, дарагавізну брыкету і на базарных "жулікаў", якія пастаянна павышаюць цэны". А ці ж такой павінна быць наша доля?

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Імя Уладзіміра Хадыкі ўшаноўваецца на яго радзіме ў Пухавіцкім раёне. Пры актыўным удзеле пісьменніцкай арганізацыі, вялікага энтузіяста краязнаўчай работы з Мар'інай Горкі, дырэктара музея ў Блоні Аляксандра Прановіча ў вёсцы Васількі на будынку Цітвянскай базавай школы адкрылася мемарыяльная дошка ў гонар земляка.

Ва ўрачыстасцях з гэтай нагоды прынялі ўдзел намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, пісьменнікі Уладзімір Саламаха, Алесь Карлюкевіч, старшыня Пухавіцкага раённага савета Лілія Котава, загадчык аддзела культуры Пухавіцкага райвыканкама Яўген Сушко, іншыя прадстаўнікі грамадскасці.

Адбыліся творчыя сустрэчы ў Цітвянскай школе, у Праўдзінскім сельскім Доме культуры. Пісьменнікі гаварылі пра творчасць не толькі Уладзіміра Хадыкі, але і іншых землякоў — Міхася Чарота, Рыгора Папараця, Генадзя Кляўко, Таісы Бондар, чыталі свае творы, дарылі кнігі.

●

Вечарына беларускай літаратуры прайшла ў Маскве, у Цэнтральным Доме літаратараў. Па запрашэнні маладых калег у госці да сяброў прыехалі Вольга Іпатава, Валянціна Коўтун, Леў Караічаў. В. а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава расказала аб жыцці пісьменніцкай арганізацыі. Госці знаёмілі масквічоў і прадстаўнікоў беларускай дыяспары сталіцы Расіі са сваёй творчасцю, адказвалі на пытанні прысутных.

На працягу сёлетняга года пісьменнікі з Беларусі маюць намер яшчэ раз пабываць у Маскве, у Ноўгарадзе, Трубчэўску, Пскове.

●

Прайшло чарговае пасяджэнне Бюро секцыі паэзіі, дзе разглядалася творчасць маладых. Нашы вядомыя паэты — Віктар Гардзей, Віктар Шніп, Паўлюк Прануза, Эдуард Акулін, Мікола Мятліцкі, Яўген Хвалей, Алесь Камароўскі, Кастусь Жук і Міхась Стрыгалёў — былі аб'ектыўныя і добразычлівыя ў дачыненні да новай хвалі паэзіі. Бо з запрошаных, а іх было 9 — Ларыса Раманава, Фелікс Мысліцкі, Ірына Хадарэнка, Серж Мінскевіч, Васіль Медунецкі, Тамара Барадзёнак, Мікола Жадановіч, Сцяпан Сяргей, Галіна Дашкевіч — усе былі рэкамендаваны да ўступу ў СБП.

**Н. К.**

НАДЗЁННАЕ

# Голас Багушэвіча

*Здалёку ён плыве*
*задумна-урачыста —*
*бы ў дымнай сіняве*
*нябёсаў промень чысты.*

*Праз дождж, густы туман,*
*што еў зямлі акрасу,*
*праз колішні падман*
*і завіхрэнні часу.*

*Ужо ён як праз сон*
*праз гулкі пошчак гаю,*
*праз гушчу шэрых дзён*
*да слыху далятае.*

*Да нашых рвецца дум*
*і патрабуе ўвагі —*
*цераз халопскі тлум*
*і дробязныя звягі.*

*І сэнс яго жывы*
*пяршыць і сёння ў горле:*
*"Любіце мову вы,*
*каб назаўжды не ўмёрлі..."*

*А мова ледзь ліпіць,*
*канаюць нашы словы...*
*Ён заклікаў любіць,*
*ах, каб жа толькі мову!*

*Ён завяшчаў абняць,*
*свой кут любіць да змогі —*
*палеткі й сенажаць,*
*азёры і дарогі.*

*Любіць без перамен*
*святлістыя узгоркі,*
*цяпло бацькоўскіх сцен,*
*бусліныя падворкі.*

*І жаўранка ўгары*
*трымценне-трапятанне,*
*і родны бляск зары*
*малочнага світання.*

*І Нёман, і Вялю,*
*свет мілы за парогам —*
*усю любіць зямлю,*
*нам дадзеную Богам.*

*У ёй жа продкі спяць*
*непадалёк ад дому.*
*Яе ні занядбаць,*
*ні распрадаць нікому.*

*Сплысці, сплысці з вадой*
*Назойлівай спакусе!..*
*Душа сям'і адной*
*вісіць над Беларуссю.*

*Пакуль яе яшчэ*
*не даняла гангрэна,*
*т о й   г о л а с хай цячэ,*
*звініць, нібы сірэна.*

*Да нас як дойдзе ўсё ж*
*яго ны кліч прарочы,*
*хай танны лёс, як грош,*
*вяльможным стаць захоча.*

*Праз попел векавы*
*слоў стрэлы шлях прадзёрлі —*
*"Любіце мову вы,*
*пакуль яшчэ не ўмёрлі"...*

*Няхай... душа гарчыць*
*і сэрца ціха ные.*
*Пакуль наказ гучыць,*
*датуль мы і жывыя.*

**Мар'ян ДУКСА**

СУСТРЭЧЫ

# Шчыра віталі зямлячку

У выставачнай зале Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея ў горадзе Мар'іна Горка, дзе разгорнута цяпер экспазіцыя "Пухаўшчына літаратурная", адбылася сустрэча з Таісай Бондар з нагоды яе трыццацігадовай літаратурнай творчасці. А родам Таіса Мікалаеўна, як вядома, з пухаўскай зямлі, з Рудзенска.

На літаратурную сустрэчу з зямлячкай прыйшлі бібліятэкары горада і вёсак, члены літаратурнага аб'яднання "Мар'інка", якое працуе пры раённай газеце "Пухавіцкія навіны", вучні і настаўнікі гарадскіх школ.

Сустрэчу адкрыў дырэктар музея Аляксандр Прановіч. З літаратурнай кампазіцыяй "Заўсёды ў творчым пошуку" выступілі метадыст гарадскога Палаца культуры Маргарыта Жмырко, вучні школы-гімназіі N 5.

Цёплае слова сказаў пра творчасць Т. Бондар пісьменнік, галоўны рэдактар газеты "Чырвоная змена" Алесь Карлюкевіч, дзякуючы якому і была арганізавана гэта сустрэча.

Прысутныя з вялікім задавальненнем слухалі Таісу Мікалаеўну. Яна ўспамінала пра нялёгкія свае дзіцячыя і юнацкія гады, расказала, як прыйшла ў літаратуру, падзялілася творчымі планамі, адказала на шматлікія пытанні прысутных, падпісала і падаравала многім удзельнікам сустрэчы свае кнігі.

Намеснік старшыні Пухавіцкага райвыканкама Тамара Шчыкоціна ў канцы сустрэчы засведчыла, што такія мерапрыемствы вучаць, асабліва моладзь, любіць роднае слова, беларускую літаратуру, ганарыцца сваімі землякамі. Яна ўручыла знакамітай зямлячцы пейзаж мясцовага мастака Васіля Высачына.

**П. АЛЕСЕНКА**

ВАРУНКІ

# Чаго не пабачылі берасцейцы

4—5 сакавіка ў Берасці ў клубе "Вулкан" мелася адбыцца акцыя сучаснага мастацтва пад назвай "Дзень муміфікатара". За тыдзень да падзеі ў горадзе былі расклеены афішы. Арганізатары загадзя дамовіліся з адміністрацыяй Дома культуры, пры якім месціцца названы вышэй клуб.

Аднак раніцою 4 сакавіка больш за 20 мастакоў, літаратараў, музыкаў і журналістаў з Мінска (і Лагойска) апынуліся перад закрытымі дзвярыма Дома культуры. Адміністрацыя паведаміла, што мастацкая акцыя забаронена гарадскімі ўладамі. Прычым ніякага пісьмовага дакумента няма, але мела месца тэлефонная размова. Маўляў, на мерапрыемства ўжо адпраўлены міліцэйскі нарад з надзеленымі надзвычайнымі паўнамоцтвамі — ён "будзе кантраляваць сітуацыю ў клубе".

На размове мінчукоў з адміністрацыяй клуба прысутнічалі людзі "ў цывільным". Да іх звярнуліся з шэрагам пытанняў і пачулі адказ: "тут пытанні задаём мы".

Мінчукам давялося ні з чым вяртацца дадому. Каб хоць неяк адзначыць сваю прысутнасць у Берасці Зміцер Вішнёў ад імя ўсіх удзельнікаў акцыі, што не адбылася, здзейсніў "перформанс пратэсту" — дэманстратыўна разламаў паўтараметровую "афрыканскую" маску, якую прывёз з сабою (тэатральны рэквізіт, так бы мовіць).

Варта адзначыць, што імпрэза, якой не пабачылі берасцейцы, уяўляла сабой "чыстае мастацтва" без усялякага дамешку палітыкі.

Берасцейцы не пабачылі: Зміцера Вішнёва і ягоных "афраканскіх братоў", перформанс "Тэатр псіхічнай неўраўнаважанасці", Юрася Барысевіча і Вальжыну Морт, музычныя гурты "Правакацыя", "Солнце-цветы", "Барадаты Грынвіч" і шмат чаго яшчэ.

Мінчукі маюць магчымасць пабачыць усё гэта 27 сакавіка. Гэтым разам іх бярэ пад крыло галерэя "Брама", якая зараз прапісана пры тэатры "Вольная сцэна". Такім чынам — 27-га на "Вольнай сцэне".

**П. В.**

НАДЗЁННАЕ

# Зямля ў бядзе

Анатоль СІЛЯНКОЎ

*Магчымасць жыць на зямлі, карміцца з яе сваёй працай, як заўсёды была, так і застанецца заўсёды адной з галоўных умоў шчаслівага і незалежнага жыцця людзей.*

**Л. ТАЛСТОЙ**

**1.**

— Што вы тут за агарод гародзіце? — жартуючы, запытаў я пажылую аднасяльчанку на вясковай вуліцы, не падазраючы, які вялікі сэнс мае для яе пытанне.

— Ой, не кажыце!.. — апасліва азіраючыся па баках, пацягнула яна мяне за рукаў бліжэй да сваіх веснічак.

Напаўголаса, каб ніхто не падслухаў, яна расказала гісторыю той агароджы. Многа гадоў побач з яе хатай пуставаў суседскі агарод. Днямі сусед памёр. Яна адразу ж паехала ў райвыканкам. Старшыні не было, зайшла да намесніка. Папрасіла перадаць ёй агарод. Той згадзіўся. Пазваніў у сельсавет, дамовіўся аб перадачы з яго старшынёй.

А праз пару дзён жанчыне перадалі новае рашэнне: той агарод адвесці суседу. Ёй пакінулі толькі невялікую палоску.

— У суседа сын вялікі начальнік у Мінску, вунь на якой машыне раз'язджае, — выціраючы слёзы, паказала жанчына на чорны "мерседэс", што стаяў паблізу. — Ён дамовіўся з самім старшынёй райвыканкама...

Такіх нябачных свету драм з-за кавалачка зямлі разыгрываецца ў вёсцы нямала.

З усіх знаёмых сялян я не ведаю ні аднаго, які б задаволена гаварыў пра свой агарод — у аднаго пясок, нічога не расце, у другога балота, вадой залівае, у трэцяга гліна, зямля як камень... І многія як пра набалелае падрабязна расказваюць пра крыўды і ганьбу, што давялося перажыць, набываючы прысядзібны ўчастак, працуючы на ім. Таго перасялілі з хутара, тры разы памяняў месца для сядзібы, пакуль не спыніўся на больш-менш прыстойным. У таго тры сям'і сядзелі на адным агародзе, калгас не хацеў раздзяляць. У некага ад бацькоў застаўся дрэнны ўчастак, а лепшы так і не выдзелілі.

Крыкі і лямант, якія ўзгараюцца з-за зямлі, можна пачуць у вёсцы і сёння. Што дзіўна: за ваколіцай без канца і краю цягнуцца шырокія абсягі палёў, а тут людзі ціснуцца адзін да аднаго, як на крызе ў час бедства.

Вядомыя адносіны ўлад да прыватнага падвор'я ў недалёкім мінулым. Жахі калектывізацыі хоць і раскрылі, а вывадаў не зрабілі: калгасніку так і не далі магчымасці вярнуцца да самастойнай гаспадаркі. Многія сяляне не мелі права набыць нават карлікавы агародзік. У зямельным кодэксе і прыкладным калгасным статуце было запісана: выдзяляць зямлю для індывідуальнага агародніцтва толькі тым, хто працуе на дзяржаўным прадпрыемстве ці ў калгасе, астатнім, уключаючы пенсіянераў і інвалідаў, — толькі пры наяўнасці свабодных прысядзібных зямель.

А вось найноўшая пастанова: прыстасоўваць структуру прысядзібных участкаў да патрэб перабудовы сяла. Патрэбы ж тут, вядома, якія. Як у гараджан: ні кала, ні двара.

Узорам стала перспектыўная шматпавярховая вёска. На Брэстчыне побач з трохпавярховымі дамамі калгаснікам не адводзілі ніякіх агародаў, на Гродзеншчыне некаторых навасёлаў двухпавярховак надзялялі кавалачкам зямлі ў тры соткі. Спецыялісты зрабілі несусветнае адкрыццё: прысядзібны ўчастак патрэбны селяніну не для таго, каб весці дапаможную гаспадарку, а каб толькі пабудаваць дом. Таму ўсюды зрабілі правілам: дзеля кампактнай забудовы вёскі выносіць прысядзібныя агароды за межы жылой зоны. Вось ён, чыноўніцкі падыход!

Агарод стаў пудзілам для начальства. Хто не закантрактаваў цялёнка, не здаў малака ў лік плана, даведзенага калгасу, таму абрэзаць "соткі" — такі агульны падыход.

**2.**

У свой час мне давялося непасрэдна сутыкнуцца з усімі тонкасцямі гэткай дзеі. Хацеў купіць закінутую хату пад Лагойскам — сельсавет не дазволіў. Набыў дачны ўчастак каля Бараўлян — райвыканкам не зацвердзіў прыём у садаводства. Пазней з-за невялікага агародзіка даводзілася мецъ справу і з Камітэтам народнага кантролю, і з райкамам партыі, і з адміністрацыяй установы, дзе працаваў.

І каб гэта было толькі ў далёкім мінулым, у тыя сівыя незваротныя гады.

... Сцяжынка прывяла мяне на край вялікай шумлівай вёскі, што каля Стоўбцаў. Недзе далёка гудуць машыны па асфальце, дыміць трубой нейкі заводзік, а тут спакой і цішыня: клякоча бусел у гняздзе на бярозе проста над варотамі ў двор, журчыць рачулка за хлявом, па двары перад замкнёнымі дзвярыма топчуцца галубы. Хата, як і агарод, пустуе многа гадоў, гаспадары праз сваякоў згадзіліся прадаць яе мне.

І вось я ў кабінеце старшыні калгаса Антона Юнцэвіча. Па яго твары я бачу: усе мае словы гучаць як у тых кабінетах, дзе сценкі абабіты гукапаглынальнымі плітамі, — губляючы ўсе адценні. Не дазволіць! — канчатковы яго прысуд.

Зноў пошукі, зноў адмовы старшыні...

Але набыць хату не значыць стаць уладаром прысядзібнага агарода. Праўда, мне пашанцавала: парадкі памяняліся, змяніўся гаспадар вясковых агародаў, знялі ранейшыя абмежаванні. Хоць беззаконнасць засталася ранейшай: мой "пляц" мясцовае кіраўніцтва перакроіла па-свойму, насуперак новаму закону, на маю заяву сельсавет нават не адказаў.

У той час — пачатак дзевяностых гадоў — многія гараджане рванулі да вясковай ваколіцы. Сёння зарастаюць бур'яном нават тыя агароды, што раней засяваліся. Надзеі новых агароднікаў не спраўдзіліся. Сталі праблемай ужо самі паездкі ў правінцыю: напрыклад, з дванаццаці рэйсаў аўтобуса, які хадзіў да нашай вёскі, захаваліся толькі два. І тыя часта зрываюцца. А цэны на білет падскокваюць амаль пасля кожнай паездкі, тады як раней пенсіянер ездзіў бясплатна.

Другая праблема — як апрацаваць зямлю. Каня калгас не дае. Гною таксама. За электрычнасць, за звадкаваны газ грошы бяруць не як з суседзяў-сяльчан, а як з гараджаніна — па найвышэйшай стаўцы. Злодзеі лазяць не толькі па агародах, але і па хатах — зрываюць замкі, высаджваюць вокны. Міліцыя на ўсё гэта глядзіць скрозь пальцы: маўляў, самі вінаватыя, сядзелі б сабе ціха ў гарадскіх кватэрах, ніхто б не кранаў... І многія сёння сядзяць, баючыся ўспомніць бярозку з бусліным гняздом каля хаты, круглатвары сланечнік у агародзе, скрозь усыпаны пчоламі...

**3.**

Аб ураджаях здаўна прывыклі не думаць. Тады як простая статыстыка сведчыла: усяго тры працэнты ворыва, што належалі прыватнікам, давалі палову ці не намнога меней агародніны, бульбы, садавіны, яек, малака, мяса. Гэтыя лічбы, на якія мне раней іншы раз даводзілася спасылацца, прыводзілі некаторых чыноўнікаў проста ў шаленства. Абвінавачвалі ў настальгіі па старой вёсцы, у разгалашэнні службовых дадзеных. А адзін вядомы публіцыст павучаў у друку: вынікі прыватнікаў дасягнуты пры дапамозе грамадскай гаспадаркі.

Сёння зразумела кожнаму: калгасам і саўгасам цяпер не да прыватніка, самі ледзьве зводзяць канцы з канцамі. І што паказваюць дадзеныя, хоць, праўда, і недакладныя (ніхто іх у прыватнікаў не збірае)? У Расіі яшчэ пяць гадоў назад падвор'і ўпершыню за многія дзесяцігоддзі апярэдзілі буйныя гаспадаркі. А летась, напрыклад, яны далі бульбы і агародніны на восемдзесят пяць працэнтаў ад агульнага ўраджаю.

Тое ж і ў нашай рэспубліцы. Чатырнаццаць працэнтаў сельгасугоддзяў, што адведзены прыватным агароднікам і садаводам, пастаўляюць на агульны стол восемдзесят працэнтаў агародніны і бульбы, яшчэ больш пладоў і ягад, да сарака працэнтаў малака і многа іншых прадуктаў.

Апошнія перамены — гэта вынік перш за ўсё вялікага абвалу ў працы буйных гаспадарак. Сёння размова ідзе аб іх выжыванні. На нагах трымаюцца лічаныя адзінкі. Больш нізкай аплаты працы нідзе ўжо няма. Жывёлу карміць нечым. Тэхніка не абнаўляецца, мінеральных угнаенняў купіць няма за што...

З-за таго, галоўным чынам, пуста ў магазінах. Паўтарапрацэнтнае малако называюць дасягненнем веку. Людзі забыліся, як выглядаюць вяршкі. Па сутнасці, пакінулі без асноўнага харчу дзяцей, хворых, састарэлых. Як нейкі небывалы цуд успамінаюцца на магазінных паліцах духмяныя паляніцы, румяныя калачы, здобныя абаранкі. З зайздрасцю любуемся мы заморскімі апельсінамі, бананамі, ананасамі, што прадаюцца ў тых кіёсках, дзе некалі красаваліся беларускія танныя яблыкі, дулі, арэхі.

Што здарылася з нашай песеннай, працавітай вёскай? Прычыну бачаць усе. Эканамісты прыводзяць такія разлікі: раней літр малака каштаваў два з паловай літры бензіну, цяпер наадварот літр бензіну каштуе каля двух з паловай, а то і болей, літраў малака. Хоць і ў тыя даўнія часы бутэльцы малака было далёка па цане да бутэлькі баржомі ці "Мінскай-4". Такіх разлікаў можна прывесці нямала. Сутнасць не ў дзешавізне прадуктаў поля і фермы, не ў парытэце або "нажніцах" цэн. Сутнасць у іншым...

Цёмныя хмары накрылі не толькі буйныя, але і дробныя гаспадаркі. Ім цяпер нават яшчэ цяжэй. Буйным выдзяляюць трыльёны рублёў, пра дробныя ніхто не ўспомніць. Горш таго. За падмогу буйныя адказваюць зніжэннем цэн на прадукты, дробныя вымушаны падладжвацца пад іх. І тым не менш...

Беларусь як была так і застаецца "бульбяшыхай". У разліку на адну душу нідзе болей "другога хлеба" не вырошчваюць — аж па семсот кілаграмаў. І амаль усё гэта ўручную, дапатопным спосабам. Калгасам і саўгасам, дзе трактары і бульбакапалкі, бачыце, не выгадна займацца таннай культурай.

Тое ж з агароднінай. Буйныя гаспадаркі настолькі зменшылі пастаўку яе, што ўсе магазіны, якія гандлявалі гароднінай, а іх толькі ў Мінску болей за сто, памянялі свае шыльды і, зразумела, спецыялізацыю. Няма на чым ужо спецыялізавацца. Аднак гараджане не засталіся без капусты, агуркоў, памідораў... Колькі не дадалі буйныя, столькі і нават болей вырасцілі дробныя гаспадаркі. І зноў жа ўсё гэта ўручную, пад рыдлёўку, без ніякай механізацыі.

А што атрымалася з садамі і ягаднікамі? Колькі выдавалася "на-гара" ў савецкія часы розных праграм па індустрыялізацыі і спецыялізацыі як пладаводства, так і агародніцтва. Колькі было тарабаршчыны, крыку і звону. Колькі выдзялялася сродкаў на ўсё гэта, колькі зроблена кар'ер на размалёўцы "перспектыў". Вынікам жа было адставанне буйных гаспадарак ад дробных па ўраджайнасці пладоў і ягад болей як ў дзесяць разоў і яшчэ ў большай прапорцыі — па іх валавым зборы.

Сёння грамадскія сады дажываюць свой век, маладыя дрэвы растуць толькі на чатырнаццаці тысячах гектараў — меней чацвёртай часткі ад агульнай плошчы. Кіраўніцтва галіны бачыць правалы і тэрмінова прыняла меры — распрацавана новая праграма, створана асацыяцыя (новае слова ў лексіконе аграрыяў) "Белсадгадавальнік". І хоць прыватнікі даюць намнога болей яблыкаў і ягад, чым іх канкурэнты, гэта яшчэ далёка ад таго, што трэба. У развітых краінах агародніна і фрукты складаюць аснову харчавання, мы ж па іх выкарыстанні нават не набліжаемся да медыцынскай нормы.

**4.**

Ураджай прыватніка прырастае пераважна на нядаўна адведзеных яму землях. За адзін 1991 год яны пашырыліся амаль у два разы, з іх калектыўныя сады і агароды — болей як у тры разы, дасягнуўшы сямідзесяці тысяч гектараў сельгасугоддзяў. Чаму так хутка выраслі валоданні дачнікаў? Знялі старыя бар'еры, пашырылі межы ўчасткаў да дзесяці і болей сотак, павялічылася колькасць "рамантыкаў зямлі" — чакаецца, што ў хуткім часе іх будзе адзін мільён. Што да вясковых падвор'яў, то іх ворыўныя землі перавысілі адзін мільён, а гэта шостая частка ад агульнага поля.

Створаны болей за тры тысячы самастойных сялянскіх і фермерскіх гаспадарак. Але ўмовы працы для іх вельмі цяжкія, іх колькасць не расце, а змяншаецца, доля ў агульным ураджаі нізкая. Не ў вялікім захапленні ад сваіх набыткаў і астатнія прыватныя гаспадары.

Кожную вясну ў нашай вёсцы, як і раней, людзі чакаюць, пакуль калгас пасадзіць бульбу і пачне размяркоўваць ім дзялкі ў полі. Бурэюць кучы гною насупраць сялянскіх двароў, бялеюць мяшкі з насеннай бульбай пад павецямі. Вяскоўцы разумеюць, што яны многае губляюць і ва ўгнаенні ўчастка, і ў тэрмінах пасадкі, але нічога не могуць зрабіць. Такі даўно заведзены парадак. А ці правільна гэта?

Болей чым год назад падпісаны новы зямельны кодэкс рэспублікі. У ім дазваляецца выдаваць сельскім жыхарам у прыватную ўласнасць або ў пажыццёвае валоданне з перадачай у спадчыну зямельны ўчастак у памеры да аднаго гектара, а ў арэнду — да трох гектараў. Але органы, якія б займаліся гэтым, не створаны. Хоць чуткі ходзяць, што ў некаторых раёнах вяскоўцаў ужо надзяляюць зямлёй. Тут зноў залежыць многае ад мясцовых улад. Чаму так марудна раскручваецца чыноўніцкая машына? Можа, зямлі не хапае?

У рэспубліцы пастаянна вядуцца размовы аб запусценні палёў. Ёсць дадзеныя, што за трыццаць гадоў з 1966-га зарасло кустамі і заплыло балотам больш за 850 тысяч гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў. За той жа перыяд выйшла з ужытку 360 тысяч гектараў меліяраваных зямель, прычына тая ж — безгаспадарчасць. Праўда, каля 300 тысяч гектараў было зноў асвоена. Астатнія так і прапалі. А колькі ўрадлівых палёў і агародаў



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ.*

проста пустуе ці апрацоўваецца абы-як. І гэта ў той час, калі людзі сумуюць па працы на зямлі, просяць пашырыць іх участкі.

У Югаславіі летась як толькі натаўцы разбамбяць якое прадпрыемства, рабочым адразу выдзяляюць зямлю, каб маглі самі сябе падтрымліваць матэрыяльна. У нас ужо дзесяты год цягнецца абвальнае падзенне эканомікі, а рэальная падтрымка насельніцтву не прапануецца. Што казаць пра асобных грамадзян! Нават навукова-даследчаму інстытуту бульбаводства, кіраўніцтва якога гаспадарнікі проста раздзіраюць на часткі, раённыя ўлады не выдзяляюць пусткі, нікому не патрэбнай, — на даследчыя работы. Гэта палітыка сабакі на сене — і сам не гам і другому не дам.

Праходзячы па вёсцы, іншы раз прыглядаешся да агародаў: што вырошчваюць там гаспадары? І немагчыма не смуткаваць: вельмі бедны асартымент культур. Амаль ва ўсіх аднолькавы — бульба, буракі, ячмень, капуста, гарбузы. Не ва ўсіх — морква, не заўсёды — агуркі, рэдка ў каго — памідоры. Пра спаржу не чулі, хоць у некаторых і расце як кветка пад вокнамі. Салату ведаюць, але здзіўляюцца, як такую траву ядуць.

Селянін заціснуты ў кут. Зямлі мала, недзе развярнуцца. Ён вырошчвае толькі самае неабходнае. Ды і то не для сябе, а болей для каровы, свінні, курэй. Сабе ўжо што застанецца. Яму, вядома, таксама хацелася б разнастайнасці, але дзе хаця б таго насення ўзяць? І якога?

Уся навука працуе на калгасы і дзяржгасы. Ім прапануецца іншы раз абменьваць з сялянамі тыя сарты, што ідуць на корм жывёле, — бульбу, буракі, моркву. Але ці магчыма такое? У сялян адбіраюць нават тую бульбу, якую яны самі збіраюць пры перакопцы асенняга поля. Гэта ж даўняя палітыка: лепш хай загіне, толькі не ідзе на карысць селяніну.

На нарадзе ў Магілёве прэзідэнт Лукашэнка, звяртаючыся да гаспадарчых кіраўнікоў, заклікаў іх дапамагчы вяскоўцам насеннем, каб не быць, як ён сказаў, нелюдзямі. Вельмі дакладны вобраз. Думаецца, яго можна было б выкарыстаць і ў болей шырокім плане — у адносінах да ўсіх, хто мае непасрэднае дачыненне да вёскі.

*(Працяг на стар. 15)*

У вершаванай аповесці-гавэндзе "Хадыка" (1847 г.) У. Сыракомля паведаў трагедыю маладога асочніка, што ўпусціў мядзведзя, прадвызначанага на забавы гетмана. Скрыўджаны, скрываўлены хлопец забівае пана лоўчага, а сам хаваецца ў пушчы. Трыццаць год правёў пад яе шатамі няшчасны Хадыка. Родная зямелька спачувала хлопцу, што, як прывід, праблукаў па гушчарах столькі летаў і зімаў, давала яму спачынак і схарон. Але і яна не змагла заглушыць тугу па родных. Стары урэшце вяртаецца да людзей і ў гэты ж дзень памірае. І толькі засталося паданне пра дзіўнага вандроўніка, у якім пазнавалі колішняга асочніка.

Нічога новага няма ў гэтым свеце. Роўна праз стагоддзе трагедыя паўтараецца, таксама на Палессі, літаральна за некалькі дзесяткаў кіламетраў ад першай. У 1947 годзе дэмабілізаваны салдат Іван Бушыла заступіўся перад супрацоўнікамі НКУС за маршала Жукава, што трапіў у няміласць да Сталіна. І, каб не паехаць да белых мядзведзяў, выбірае палескі хлопец родныя лясныя абшары. Сорак два гады блукаў ён па балотах, навакольным сасняку, начаваў у капе сена ў глухім непрыветным лесе. Рассыпалася ад старасці родная хата ў вёсцы, занеслі на клады бацькоў, а ён так і не выйшаў да людзей. "Баяўся, усіх баяўся", — такі быў адказ няшчаснага.

Не ведаю, ці былі знаёмы А. Наварычу згаданыя гісторыі. Можа, проста таленавіты празаік падсвядома спасцігнуў рэальную трагедыю, што патрабавала абавязковай згадкі, чалавечай цеплыні і спагады. Вось чаму і ставрае аўтар загадкавую адысею пра зграю ваўкоў: ёю кіруе нейкая дзіўная істота, у якой потым з цяжкасцю пазнаюць чалавека. Што ж адвяргае чалавека ад свету яму падобных? Наколькі страх можа паралізаваць яго асноўныя сувязі і пачуцці? Што можа вярнуць яго назад? Як зразумець сутнасць тых трагедый, што адбываюцца на гэтай зямлі? Чаму на ёй валадарыць злосная чужая сіла, якая не мае літасці ні да баброў, ні да ваўкоў, ні да людзей, што вымушаны разам хавацца ў тарфяных норах? Тым болей, што ў свядомасці мясцовых жыхароў пануе нейкая дваістасць. Як лічыць А. Наварыч, даволі часта тут ускалыхваецца даўнішняя памяць пра ранейшае жыццё-быццё, калі дзяды-тубыльцы ў лазовых пасталах выходзілі з чорнага балота. Палешукі згаданага рэгіёна выразна адчуваюць сваю непадобнасць. Невыпадкова нават звычайны дзядзька Стахавец стварае тэорыю сваёй адметнасці: фізічнай ("чоловік світлогокі, мочка єго вуха свободная"); лексічнай ("у рускіх — клевер, у беларусаў — канюшына, тут — смоктушкі"); фанетычнай, марфалагічнай (гразь-князь-колодзязь — усе гэтыя формы паляшуцкія); а ў рэшце рэшт тут, аказваецца, жывуць відуны — нашчадкі ўсіх народаў, што тут былі-жылі. Вось чаму хлопец нарэшце прыходзіць да вываду, што ён "у сваёй гарбузнай рэспубліцы, у сваёй Відуніі, на сваім родным Палессі".

Па сутнасці, А. Наварычу прыйшлося двойчы ўваходзіць у адну і тую ж плынь, якую пераадольвае толькі аднойчы "чыста" беларускі літаратар. Для таго, каб стаць адным з апошніх, яму патрэбна было дыстанціявацца ад многіх слоў матчынай мовы, прайсці яшчэ раз праз пакуты сумнення і расчараванняў у пошуках сябе ў "крывічанскай" стыхіі, пабываць у ролі герояў-праўдашукальнікаў з навелы "У цягніку" ("сараміліві і злы, як сапраўдны ліцвін"), убачыць руіны слаўнай гісторыі, адчуць віртуальнасць цяперашняй Радзімы з не меншай віртуальнасцю яе сучаснага мастацтва і, у рэшце рэшт, разглядзець сімволіку будучай надзеі ў дзіўных дзецях. Ці не гэтым тлумачацца і пошукі яцвяжскіх каранёў, і спроба стварэння новай літаратуры? Тым болей, што пошукі і спробы праходзяць пад выразным налётам "летуценнага песімізму".

Што тычыцца апошняга, то, як сведчыць сам пісьменнік у згаданым інтэрв'ю, "летуценняў сапраўды стала меней". Выразнаму аўтарскаму песімізму спрыялі пэўныя негатыўныя змены ў суадносінах пісьменнік — чытач, выдавецкіх справах, грамадска-палітычных абставінах. Само жыццё хутка развейвае ружовы туман.

Выразна іншым паўстае А. Наварыч у апошніх навелах ("Чырвоны мур пад зялёнаю ялінаю" і "Грушы"). У аўтара ўжо і следу няма ад юнацкага максімалізму, ён ужо не дзеліць свет на белае і чорнае (у сэнсе ацэнак), зразумеўшы, што так цяжка спасцігнуць ісціну — калі гэта наогул магчыма. Першы са згаданых твораў апавядае аб нечаканай сустрэчы непрымірымых ворагаў. "Адзін жыў і троссся, як асінавы ліст, за тое, што здзейсніў забойства, смерць учыніў бязвіннаму чалавеку, а другі жыў і начамі скрыгатаў зубамі ад таго, што помсты хацеў, а адпомсціць не мог..." Але ніхто ўжо не збіраецца помсціць. Адзінае, што просіць муж і бацька забітай жонкі і дачкі ў забойцы — паказаць магілу няшчасных. Бо даўно зваліўся сасновы крыж, магілы абраслі травой, здзічэлымі ружамі і язмінам і следу ад іх не засталося — "не пазнаць, не адшукаць, як ні шукай, як ні поўзай на каленцах, як ні абмацвай траву і ўзгорачкі, аброшваючы іх горкімі слязамі".

Не менш трагічны і фінал другой навелы: "цяпер няма таго хутара. Ні хутара, ні грушаў. Хату разабралі, сад выкарчавалі. На пустой сядзібе засталіся толькі шулы ад дзвярэй ды ў бур'яне ляжаць кавалкі каляровага шкла".

Omnes una manet nox — усіх чакае адна і тая ж ноч. Можа, таму так трэба быць ашчадным і любасным у дачыненнях з людзьмі. І наўрад ці патрэбна руйнаваць гэты свет дзеля таго, каб, як гаворыцца ў іншым лацінскім выслоўі, здзейсніўся б справядлівы суд.

У адпаведнасці са зняненнем светапогляду аўтара мяняецца і яго выяўленчая палітра. Шматколерная акварэль саступае суроваму алею жыцця, які і сам падчас замяняецца рэзкай графікай. Толькі дзе-нідзе, асабліва ў апісанні любімай прыроды, блісне ўсмешка юнага аптыміста. Усё гэта сведчыць аб сур'ёзных творчых пошуках А. Наварыча, гэта ж выяўляюць і яго ўдалыя спробы ў сферах сатырычнай і парадыйнай. Згаданае апавяданне "Камуністы" ўяўляе сабой не проста пашыраны анекдот у духу Ф. Багушэвіча, Ядвігіна Ш. ці М. Святлова — народная этымалогія незразумелага і нелюбімага, "небяспечнага" для героя слова: у дадзеным выпадку алітэрацыя слоў "іконы" са спалучэннем "і коны" (у адпаведнасці з вымаўленнем палешукоў), а характэрны зрэз спецыфікі народнага светаўспрымання. Перыпетыі ўступлення неразваротлівага Мікіты ў "кумпарцію" вельмі нагадваюць адвечныя фальклорныя спробы ўзняцца па драбінах, як цыган, на неба, ці вядомыя памкненні ўжо напаўзабытага Шчукара здабыць з дапамогай падобнай афёры хоць які-небудзь партфель. Камізм сітуацыі значна ўзмацняецца апісаннем паслязастольнага "спабоніцтва" на правы належаць да вышэйшай касты і наіўным разуменнем, што корань галоўнага слова — кум...

Наогул, А. Наварыч — мастак ствараць самыя неверагодныя сітуацыі. Сведчаннем таму як фабула згаданых ужо твораў, так і выключна фантастычнае апавяданне "Вяртанне сыноў", змешчанае ў альманаху "Тутэйшыя". (Магчыма, гэта аўтарскі адказ на запатрабаванне часу забавіць чытача фантастыкай, прыгодамі, дэтэктывамі).

У яшчэ большай ступені здзівіў ён усіх апоівесцю пра дзівосныя прыгоды Рабунькі ("Крыніца", NN 16, 20). Хаця, здавалася б, чаму тут здзіўляцца. Таму, што ў каровы ад чарнобыльскіх перасяленцаў нарадзілася цялятка, здольнае гаварыць па-чалавечы і малпаваць усе недахопы homo sapiens? Дык зараз Галівуд запоўніў увесь сусвет разнастайнымі вычварэннямі, што з'явіліся ў выніку тэхнічных мутацый. А беларус з маленства ўзгадаваны на казачках і байках, дзе зусім натуральна герой гаворыць з катком, конікам, казой, ваўком і г. д. Але ў дадзеным выпадку аўтар арыентуецца не на нацыянальную фантастыку, а на традыцыі народнай смехавай культуры, яе карнавальнага пачатку. Вось чаму ён праводзіць сваю гераіню, як некалі Лесаж свайго крывога нячысціка, па ўсіх ступенях сацыяльнай лесвіцы, а потым вяртае да родных крыніц, падрослай мяты. Наўрад ці тут варта знаходзіць пэўныя паралелі, сам аўтар цытуе Стэндаля, што "палітыка — камень на шыі мастацтва". Як некалі кот Гофману, уся рэальная фауна Я. Баршчэўскаму, Красуля і Падласенькі Ядвігіну Ш., Рабунька дазваляе А. Наварычу ствараць фантасмагарычную сітуацыю, дзе сплятаецца рэальнае і фантастычнае, камічнае і трагічнае, дзе толькі фінал выразна антыказачны — усё застаецца як і раней (відаць, гэта тлумачыцца адвечна беларускім — "не хачу быць каралём"). Аўтар паказаў гэты свет крыху іншымі вачыма, і мы ўбачылі і родную прыроду зусім інакш, і многія чалавечыя схільнасці і заганы, і, наогул, спрадвечныя чалавечыя радасці.

Згаданыя пошукі сведчаць пра тое, што прыйшоў час А. Наварычу стварыць аб'ёмны твор, у якім, як і ў жыцці, знойдзецца месца і для трагічнага, і смешнага, і фантасмагарычнага, і развагам пра каханне і філасофію бытавання, як чалавечага, так і братоў нашых меншых, дзе прагучаць як словы літаратурныя, так і паляшуцкія. А што ж? Беларусь з Палесся пачынаецца...

**Іван ШТЭЙНЕР**

г. Гомель

З НАГОДЫ

# Мама Ларыса

*А што мы, старыя, для іх,*
*маладых?*
*Мы тыя, военныя,*
*быццам забітыя...*
*Над хлопцам з дзяўчынай*
*кляны разгараюцца.*
*Зайздрошчу? Ніколькі.*
*Сумую? Ледзь-ледзь..*
*А нам*
*Маладосць, пэўна,*
*не здагадаецца —*
*Да скону гарэць*
*І ніколі не тлець.*

**П. ПАНЧАНКА**



Мала хто з выкладчыкаў ці настаўнікаў, на маёй памяці, маглі ўслых прызнаць, што яны былі прадметам захаплення для сваіх вучняў. Яна ж казала пра гэта без абачлівай асцярогі, але і без пыхлівага гонару:

— Так, пісаў мне. Я яму адказала.

Дадам ад сябе, што адказала вершам: досыць зграбным, далікатным і цнатлівым. Вершам-адмовай... Маўляў, дзесьці наперадзе твая Яна — Сіняя птушка шчасця. Хай жа вам шчасціць — колькі адмерана лёсам...

Бо яна жыла і жыве сумленна і бескампрамісна, як належыць сапраўднаму чалавеку і інтэлігенту. І шмат хто гарнуўся да святла і цяпла яе душы. Маю на ўвазе тых, каго ратавала яна сваімі мужнасцю, самаадданасцю ды нонканфармізмам. Але галоўнага з іх — свайго сына — выратаваць ад дачаснага зыходу не змагла...

Колішнім правінцыяльным юнакам, разгубленым у гарадскіх рэаліях, я звярнуў увагу на святло, якое струменіла з вачэй танклявай, ужо не вельмі маладой жанчыны, якая ў перапынках паміж лекцыямі заўзята курыла, не зважаючы на катэгарычныя забароны адміністрацыі. Нават найперш у тыя часы змагар за дысцыпліну і парадак на факультэце наменснік дэкана М. Піпчанка на гэта не зважаў. Чаму? Я зразумеў гэта пазней. Тады ж мяне, хлопца з Нарачы, бянтэжылі не толькі "заганнасць" і нават таннасць цыгарэт выкладчыцы. Досыць хутка я ўведаў яе імя — Ларыса Лявонцьеўна Кароткая, дацэнт кафедры рускай класічнай літаратуры (і маці таленавітага крытыка Варлена Бечыка).

Зрэшты, педагагічны лёс звёў нас яшчэ аднойчы, калі Л. Кароткай давялося на нейкі час замяніць сваю (таксама таленавітую) калежанку Л. Гусеву. Так сталася, што з першай сустрэчы ў філфакаўскіх калідоры, падмацаванай дзвюма-трыма лекцыямі ў аўдыторыях, я стаўся вечным палоннікам гэтай незвычайнай жанчыны. Нас далей нячаста зводзіў лёс, але, паверце, кожная сустрэча, нават хвілёвая, выпадковая, у прафесарскай, у прамежках між заняткамі была для мяне святам далучэння да духоўнасці, людскасці, прафесійнай годнасці, якія выпраменьвала Яна.

Сапраўды, меў рацыю Э. М. Рэмарк, калі сцвярджаў, што кантакт паміж людзьмі падобны да ветру: замкнеш яго ў пакоі — і атрымаеш затхлае паветра. Sapienti sat — мудраму дастаткова. Але для многіх я зараз канстатую добравядомае. Чаму, скажыце, шаноўныя калегі, дагэтуль не напісана штокольвечы грунтоўнага пра драматызм лёсу самога В. Бечыка (акрамя працы А. Бельскага) і яго маці — таксама нешараговага педагога, літаратуразнаўцы і крытыка?

Сёння Л. Кароткая адзначае свой дзень нараджэння. Да гонару кіраўніцтва філалагічнага факультэта ёй было дадзена права выйсці на юбілейную сцэну і падзяліцца з прысутнымі сваімі ўспамінамі: пра людзей, пра час, пра сябе.

Бо была на яе жыццёвай дарозе вайна, была партызанская сувязная Ларыса, якую ведалі як "Чайку", якая, ахвяруючы сваім жыццём і жыццём свайго маленькага сына, перадавала звесткі ў "цэнтр".

Была ў 1943 г. трагічная неабходнасць аддаць дзіця ў іншыя рукі, іншым, добрым людзям, і драматызм расплаты за гэта, калі ў 1945 г. сын пры сустрэчы з ёй назаве яе не мамай, а... Ларысай.

Былі перадваенныя і пасляваенныя гады настаўніцтва, выкладання, далучэння многіх будучых майстроў да магіі Слова, Культуры і Памяці.

Зрэшты, былі і пазнейшыя, зусім не філалагічныя баталіі, калі Л. Кароткая нават перад сваімі колішнімі паплечнікамі па зброі бараніла праўду пра вайну, прамоўленую вуснамі В. Быкава, С. Алексіевіч і інш.

Памятаю, як нервавалася дацэнт Л. Кароткая, як доўга не магла прыкурыць, вярнуўшыся з пасяджэння Савета ветэранаў, дзе ганьбавалі, пляжылі чарговую "хлусню" А. Адамовіча, як перадаваліся мне яе біятокі.

Як не здзівіцца, што пасля ваеннага і пасляваеннага ліхалецця ў яе хапае сілы быць прыгожай, годнай, у нечым нават арыстакратычнай. Зрэшты, ёсць вялікая логіка лёсу, што колішняя партызанская сувязная "Чайка" да адыходу на заслужаны адпачынак выкладала на кафедры рускай класічнай літаратуры, у якой адным з вызначальных твораў была менавіта чэхаўская "Чайка".

Гётэ калісьці казаў: "Перад вялікім розумам я схіляю галаву, перад вялікім сэрцам — калені". Я сёння кленчу перад светлай асобай той, якую некалі родны сын назваў Ларысай, але якая сталася неўзабаве яму клапатлівай і сардэчнай мамай. Зрэшты, як і ўсім нам. З днём нараджэння, Мама Ларыса!

**Віктар КАРАТАЙ**

ДРУК

# Дзякуючы падтрымцы прэзідэнцкага фонду

Паэтычныя таленты ў Горках заўсёды карыстаюцца падтрымкай грамадскасці ("ЛіМ" неаднойчы пісаў аб кніжках паэзіі, якія выдаюцца ў горадзе) і тым больш прыемны факт, што і ў сталіцы чуваць паэтычныя галасы з Горак. Нядаўна выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла ў свет зборнік Ніны Кавалёвай, інваліда першай групы, члена Саюза беларускіх пісьменнікаў, якая жыве і працуе ў Горках. Выданне зборніка ажыццёўлена дзякуючы фінансавай падтрымцы фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва, а называецца зборнік "Ликующий полет". Складаецца кніжка з пяці раздзелаў, у якіх вершы Н. Кавалёвай аб сваёй маленькай радзіме, аб някідкай, але такой пяшчотнай прыродзе горацкага краю. Кранаюць сваёй шчырасцю і цеплынёй вершы аб каханні, прымушаюць задумацца радкі аб дабрыні і самаахвярнасці. Творы нясуць у сабе зарад бадзёрасці, жыццястойкасці, аптымізму, якіх нам сёння так часта не хапае і свайго чытача ён знойдзе сярод людзей любога ўзросту.

**М. СТУДНЕВА,**
**навуковы супрацоўнік Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея**

# "Кантакты і дыялогі" — па-англійску

З'явіўся пробны нумар інфармацыйна-аналітычнага і культуралагічнага бюлетэня Грамадскага аб'яднання "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў" і Грамадскай арганізацыі "Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі" "Кантакты і дыялогі" на англійскай мове. Ён мае рэкламны характар, таму змест яго склалі асобныя матэрыялы, апублікаваныя ў бюлетэні па працягу 1998—1999 гадоў. А паколькі, як ведаюць пастаянныя чытачы "Кантактаў і дыялогаў", гэтае выданне закранае самыя розныя аспекты беларусазнаўства, расказвае пра беларусаў у свеце, трэба спадзявацца, з'яўленне такога нумара яшчэ больш паспрыяе таму, што пра Беларусь будуць лепш ведаць у іншых краінах.

## “Срэбны дождж”

Дзякуючы “Беларускаму кнігазбору” выйшла ў свет кніга перакладаў з англамоўнай паэзіі Алены Таболіч “Срэбны дождж”. А. Таболіч родам з вёскі Горна, што на Зэльвеншчыне, скончыла Беларускі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт. У ім цяпер працуе выкладчыкам на факультэце англійскай мовы, мае навуковую ступень кандыдата філалагічных навук. А. Таболіч займаецца праблемамі параўнальнай лінгвістыкі, адзін з аўтараў-складальнікаў “Англа-беларуска-рускага слоўніка” (1989) і “Кішэннага англа-беларуска-рускага слоўніка” (1995). Захапляецца паэзіяй. Не толькі сама піша вершы,



а і шмат увагі аддае перакладу. У зборнік “Срэбны дождж” уключаны творы 29 англійскіх і амерыканскіх паэтаў, тым самым як бы атрымалася невялічкая анталогія, складзеная самой перакладчыцай.

Алена Таболіч, перш чым прадставіць свае пераклады беларускім аматарам паэзіі, выступае з невялікім сваім вершам, што пастаўлены да кніжкі эпіграфам:

*Нашчадкі кельтаў,*
*англа-саксаў,*
*Праз акіяны і праз моры*
*Я чую голас ваш далёкі,*
*А мой*
*вандроўнікі-аблокі,*
*Хай не згубяць у прасторы,*
*Хай данясуць вам і без факсаў.*

Пры складанні зборніка і падрыхтоўцы яго да друку прыняты пад увагу інтарэсы і тых чытачоў “Срэбнага дажджу”, якія добра ведаюць англійскую мову, таму творы пададзены не толькі ў перакладзе, а і ў арыгінале. Само сабой зразумела, што арыгінал стаіць першым... Але, думаецца, калі чытаеш беларускамоўны варыянт асобных твораў, нават не ведаючы англійскай мовы, няцяжка ўпэўніцца, што А. Таболіч паставілася да перакладу сур'ёзна, бо верш гучыць. Яго інтанацыя такая, нібыта гэта напісана па-беларуску. А гэта і ёсць сведчанне таго, што перададзена галоўнае — душа твора, а не толькі блізкасць да арыгінала. І такіх прыкладаў шмат.

Узяць хоць бы верш “Зімовае ўбранне”. Аўтар Гарнэт Эн Шульц:

*У белай футры цэлы свет,*
*У коўдры мяккай, нібы воўна,*
*Наш домік з садам, двор,*
*ставок —*
*Так выглядае ўсё цудоўна.*
*Павольна кружацца сняжынкі,*
*Як быццам чары хто наслаў.*
*Усё прыціхла ў наваколлі,*
*Зімовы час ужо настаў.*

А гэта паэт мінулага стагоддзя — Хартлі Коўлдрыдж. Верш “Яна не прыгажуня” — з твораў, у якіх пры знешняй прастаце хаваецца глыбокі сэнс і якія прываблiваюць шчырасцю пачуцця лірычнага героя:

*Яна — зусім не прыгажуня,*
*Ёсць лепшыя дзяўчаты.*
*І не заўважыў бы красу я,*
*Каб не правеў дахаты.*
*Яе ўсмешка — цуд, замілаванне.*
*З вачэй праменіцца каханне.*

Адзін недагляд: усё ж трэба было змясціць невялікія звесткі пра аўтараў. А. Таболіч жа чамусьці абмежавалася толькі ўказаннем выданняў, з якіх зроблены пераклад.

Юрась ВАЙСЁНАК

---

ПАЭЗІЯ

Мікола МЯТЛІЦКІ



# Балады Нясвіжа

## Крывавая балада

*Пыл над Донам чорна ўецца.*
*Дыша конніца хрыпата.*
*Ціша ночы палавецкай*
*Ятаганамі праціята.*

*Пыл Кацяну вочы выеў.*
*Як асіну, трусіць хана.*
*Мчыцца вершнікам у Кіеў*
*Постаць дрогкая Кацяна.*

*— Насядае вораг яры, —*
*Хан заступнікаў збірае, —*
*Сёння ссеклі нас татары,*
*Заўтра вас змяце іх зграя!*

*Трубяць збор у стольным градзе:*
*Стаць грудзьмі ў палях чужыны.*
*Устаюць на даляглядзе*
*Мужных русічаў дружыны.*

*Шчыльна сталі — віж да віжа —*
*У чаканні сечы-буры.*
*— Скуль вы будзеце?*
*— З Нясвіжа!*
*Годна мовіць князь іх Юры.*

*І змінае стэп кавыльны*
*Вояў конніца ліхая.*
*Смутна прывідам магільным*
*Вараннё наўсцяж лятае.*

*Мкнуць са стэпавай шырэчы*
*Бубнаў пошчакі-удары,*
*Гік чуцён нечалавечы —*
*Віхрам коцяцца татары.*

*Паціраючы далоні,*
*Прыўзняліся ў сёдлах воі:*
*Чужакоў нязваных коні*
*Смешаць куцасцю сваёю.*

*Раз астатні сонца ўсходзіць.*
*Кліч узносіцца гартанна.*
*Ляжа Русь на тры стагоддзі*
*Капытамі іх стаптана.*

*...Адмахала ў бітве мечам*
*Смерць прачорная, як галка.*
*Ўсцяж крывёю чалавечай*
*Пунсавее рэчка Калка.*

*Мёртвы сон халодзіць скроні*
*Вояў-русічаў пабітых.*
*Без прыгляду ходзяць коні*
*Па траве, крывёй палітай.*

*Ценем шарае гадзіны*
*Ціш устала над ваколлем.*
*Толькі стогн слабы адзіны*
*Ўвыш плыве над сечы полем.*

*Не скарыўся смерці, выжыў*
*Віж, між паўшымі ступае.*
*Ён дружыннікаў з Нясвіжа —*
*Хто жывы?! — адзін шукае.*

*Шэпча воіну, як сыну*
*Князь, паранены смяротна:*
*— Ты аджаі шлях-пуціну*
*Да зямлі далёкай роднай.*

*Вестак груз нясі нядобрых.*
*Абышлася доля хіжа...*
*Там, за сценамі Нясвіжа,*
*Раскажы пра смерць харобрых.*

## Ліздэйка

*Нарымунт чарней ад сажы —*
*Смутак гойстра точыць сэрца:*
*Род ягоны слаўны княжы*
*Без нашчадка застаецца.*

*Каб сагнаць з душы самоту,*
*Не каўтаць палын гарчынны,*
*Трубіць з раніцы ў ахвоту*
*Паляванне рог турыны.*

*У барах, палях тутэйшых*
*Як ні дзень пагоні цокат.*
*Толькі жрэц Крыва-Крывейша*
*Хітравата мружыць вока.*

*Ганчакі абклалі звера,*
*Як зладзея ў хвілю крaжы.*
*На лілова-сіні верас*
*Чабаток ступае княжы.*

*Дзе ж жаданая здабыча —*
*Волат тур, яго рахуба?*
*Ды загоншчык князя кліча*
*Падысці у зацень дуба.*

*Дуб-сілач узнёсся блізка*
*Грознай здanню велікана.*
*На суках крутых калыска*
*Буй-вятрамі разгушкана.*

*Слова кажа жрэц вярхоўны,*
*Поўны скрытнага ўзрушэння:*
*— Ясны княжа, сонцу роўны,*
*Гэта — Божае знаменне!*

*Пасылае князю сына*
*Сам Пярун! Лікуйце, стражы!*
*Узлятае сакаліна*
*Над дружынай позірк княжы.*

*Галасочак, як жалейка.*
*Тварык ясны, глянуць люба.*
*І назваў народ Ліздэйкам*
*Пасланца з гняздоўя дуба.*

*Рос хлапчук — уцеха бацькі,*
*Скурай белы, як бяроза.*
*І ніхто дасюль не бачыў*
*Больш мудрэйшага на розум.*

*Стаўся хутка сонцу роўны*
*Юны князь — краса жывая.*
*Уздыхае жрэц вярхоўны,*
*Праўду глыбака хавае.*

*“Смерць злавесніца-зладзейка*
*У зямлю паклала маці.*
*Ты расці, сынок, Ліздэйка,*
*Князя цешачы, ў багацці...”*

*У сядле ваярскім чынна*
*Грае княжыча пастава.*
*І дайшла да Гедыміна*
*Пра Ліздэйкі мудрасць слава.*

*Кліча отрака на раду*
*У палаты князь вялікі:*
*— Разгадай мой сон. Мо здраду*
*Мне яго вяшчуюць зыкі?*

*Сніцца: воўк жалезны вые*
*На чатыры бакі свету.*
*Б'юць раскаты грамавыя.*
*Што б мог значыць прывід гэты?*

*Адказаў Ліздэйка: — Княжа!*
*Сну тваймy шчасліва збыцца.*
*Гедыміну неба кажа —*
*Ўстане новая сталіца!*

*Выбірай ёй месца пільна*
*Там, дзе сон прысніў прарочы.*
*Муравана ўстала Вільня,*
*Сэрца цешачы і вочы.*

*І дажыў Ліздэйка слынны*
*Ў ёй да позняе магілы.*
*А наступнікам пакінуў*
*Імя-гонар — Радзівілы.*

## Язэп і Ганыся

*Змрокам вечар агарнуўся —*
*Лётка музыка ўзвіхрыла.*
*Скача юная Ганыся*
*На пацеху Радзівіла.*

*Заваражана ўздыхае*
*Танцам скораная зала.*
*Як лябёдка праплывае —*
*Харaством чаруе ўдала.*

*У князёў гарачым дыхам*
*Да яе пяшчота рвецца.*
*А яна саступіць ціха —*
*Ні адзін не цешыць сэрца.*

*Уцякае — не чакае*
*Гулкай пругкасці авацый.*
*Грудзі белыя хавае*
*У дзяругах дэкарацый.*

*Знаць не знае ў міг той горны*
*Падалей ад ласкі таннай,*
*Што мастак па ёй прыдворны*
*Сохне, любы, закахана.*

*Прыгажун Язэп нямее:*
*Хоць паглядам дакрануся!*
*Быццам белая лілея*
*Кружыць юная Ганыся.*

*Падступае ростань бліжай.*
*Сэрцу — роспачу скавацца.*
*Час прысцеў у Слуцк з Нясвіжа*
*Ёй з тэатрам падавацца.*

*У хлапца застылі ў горле*
*Словы спешнага прызнання,*
*Рукі дужыя — абмёрлі,*
*Жаркіх воч шугае ззянне.*

*Ўзрушных слоў Язэп жахнуўся.*
*У баковачцы за залай*
*Пацалункамі Ганыся*
*Спуд ягоны асыпала.*

*Гаварыла, што кахае*
*З той пары, як толькі стрэла.*
*Быццам птушка трапяткая,*
*У абдымках хмельна млела.*

*Пачуцця шуготка крылы*
*Вырастаюць двум на згубу,*
*Бо не хочуць Радзівілы*
*Даць сваім прыгонным шлюбу.*

*Тую просьбу як пачулі,*
*Дык затупалі нагамі.*
*Рукі беднае Ганулі*
*Закавалі ланцугамі.*

*Ёй на сцэне заставацца,*
*Голаў хілячы ў паклоне.*
*Закаханыя з палаца*
*Ноччу выбеглі.*
*Пагоня.*

*Наўздагон па следу скача,*
*Коней храп, нагаек посвіст.*
*К хлопцу туліцца гарача*
*Паланянкі беднай постаць.*

*Той абдымак — іхнім шлюбам*
*Стаў пад зоркаю начною.*
*І стаяць вякі: ён — дубам,*
*А яна пры ім — сасною.*

*Страху поўныя, ўтрапення,*
*Як маланка бліснe хіжа.*
*Хто ні едзе — кожны стрэне*
*Іх пры шляху да Нясвіжа.*

## Мастак

*Узнесены пад купал фрэскі —*
*У вечнасць лікі паплылі!*
*Тварэц багоў, Ксаверы Гескі*
*Ў карчме балюе, на зямлі.*

*Гудзе патайная вячэра*
*Убога-тленных маляроў.*
*У жартах хлопцы зубы шчэраць*
*Ды глушаць так, што будзь здароў!*

*Парыўна Гескі сціснуў скроні,*
*А сэрца — зойдзецца наўзрыд.*
*— Нас ашукалі, Бернардоні!*
*Маўчыць партрэтны езуіт.*

*Узносіць майстра гневу сіла.*
*Прыцiх і той, хто баляваў.*
*— Усмак бы, хлопцы, Радзівіла*
*Я саркафаг размаляваў!*

*Ён — ашуканец! Дурнем буду,*
*Паломніць, грэшніка, мяне.*
*Я напісаў з яго Іуду*
*У храме боскім на сцяне!*

*Глядзіце ўсе, хто знаць ахвочы:*
*Там, дзе Хрыстовых вучняў рацъ,*
*Драпежна звужаныя вочы*
*Ягонай сквапнасцю гараць!*

*Ўміг у пракураным сутонні*
*Застыў каменна твараў від.*
*— Ну што ты скажаш, Бернардоні?!*
*Маўчыць партрэтны езуіт.*



ПРОЗА

Леанід ЛЕВАНОВІЧ

# КРУГІ ГАЛО́



АПАВЯДАННЕ

I

Пасля вячэры Віктар Бародзіч, малады кандыдат гістарычных навук, прысеў на канапу ў вестыбюлі — паглядзець тэлевізар. Неўзабаве да яго падышоў сівагаловы шчуплаваты, бы падлетак, Васіль Закрэўскі.

— Якія планы на вечар? — спытаў ён.

— Ніякіх. Хіба што ў більярд згуляць. Як вы, згодны?

— Сёння цудоўны вечар. Давай зробім вогнішча. Дроў я нарыхтаваў. Сустрэнемся на выхадзе без чвэрці дзевяць. Лады?

Запрашэнне не было нечаканым. У прафілакторыі навукоўцаў усе ведалі, што член-карэспандэнт, прафесар-гісторык Закрэўскі — заўзяты аматар вячэрніх вогнішчаў. Не раз любаваўся зіхатлівым серпанцінам іскраў і Віктар, дапамагаў насіць галлё, яловыя галіны: менавіта яны сыпалі іскрамі-стужкамі ў начной цемры. Не мог ён адмовіць у кампаніі Закрэўскаму і сёння. Вельмі паважаў старога, больш таго — лічыў хросным бацькам у навуцы: Васіль Антонавіч быў яго навуковым кіраўніком, паспрыяў абараніць дысертацыю. Цяпер Бародзіч шчыраваў над доктарскай, і добрыя адносіны з прафесарам Закрэўскім толькі на карысць, бо той член навуковага савета.

— Я згодны, Васіль Антонавіч.

— Запрашай сваіх суседзяў і суседак. Вогнішча ў гонар жанчын. Заўтра ж іхняе свята, — прафесар павярнуўся і пайшоў.

Без чвэрці дзевяць Віктар спусціўся ўніз. Каля ўвахода ў прафілакторый стаялі Закрэўскі, дацэнт Адамейка, у акулярах, з сівой барадой пад Хемінгуэя, незнаёмая маладая жанчына ў белай куртцы і ў белай вязанай шапачцы, бы снягурка.

— А чаму адзін? — спытаў у Віктара Закрэўскі.

— Сусед пакаціў у Мінск да жонкі. Больш нікога не ўгаварыў.

— Ну і лежабокі! Што за народ пайшоў? Толькі б тэлевізар глядзець без адрыву ад канапы, — праскрыпеў старэчым голасам Адамейка. Ён трымаў каля грудзей невялікі транзістар.

— Што ж, не хочуць — як хочуць. Пайшлі? — Закрэўскі зірнуў на жанчыну, быццам толькі ад яе залежала — ісці або не ісці.

— Вядзіце. А далёка гэта? — мілагучным прыемным голасам спытала жанчына і дадала: — Але помніце пра лёс Івана Сусаніна.

— Гэта зусім блізка, Валюша. Якіхнебудзь трыста метраў, — супакоіў яе Закрэўскі. — Мужыкі, знаёмцеся з нашай дамай.

— Сямён Кузьміч, — праскрыпеў Адамейка. — Былы донжуан.

— Чаму былы? Вы так молада выглядаеце, — усміхнулася Валя.

— Гм, молада... Ноччу ўсе кошкі шэрыя. Хоць яно, канешне, я без барады, як чорт малады...

Дацэнт Адамейка быў яўна на падпітку, прысутнасць маладой сімпатычнай жанчыны натхняла ягонае красамоўства.

Яны пакіравалі па вузкай лясной дарожцы. Чым далей адыходзіліся ад ярка асветленага прафілакторыя, тым гусцейшай рабілася цемра. У вершалінах высокіх дрэў шумеў вецер, у прагалінах мігцелі зоркі.

Стаяў пачатак сакавіка, але снег ужо амаль увесь растаў, голая зямля была шэрая і непрыветная. Шэра, гола і няўтульна было ў лесе, які жыў прадчуваннем вясны, удзень ужо звонка спявалі сініцы.

Асфальтаваная дарожка скончылася. Закрэўскі, які лёгка і нячутна крочыў наперадзе, звярнуў на вузкую цёмную сцежку.

— Далёка яшчэ? Ой, нічагусенькі не відаць! — спатыкнулася Валя.

— Ужо блізка, — бы малое дзіця, супакойваў кабету Закрэўскі.

Віктар уключыў кішэнны ліхтарык, Валя адразу прыхінулася да яго, ды і сцежка была вузкая.

— О, аказваецца, сярод вас ёсць прадбачлівыя мужчыны. А то я ўжо напалохалася. Баюся цемры і незнаёмых мужчын, — шчабятала, бы тая сарока, жанчына.

— Мы ўсе прадбачлівыя, Валюша. Вы ў гэтым пераканаецеся, — суцяшаў кабету Закрэўскі.

— Паглядзім, паглядзім. Ва ўсякім разе, усе ахвяры самі вінаваты, сказаў адзін мудрэц. Яны паяўляюцца ў небяспечным месцы і ў небяспечны час.

— Дык што, ахвяры самі лезуць на ражон? — хмыкнуў Адамейка.

— Выходзіць, так. Ну вось я, бы тая дурніца, рвуся ў цёмны лес з малазнаёмымі мужчынамі...

Віктар здзівіўся, пачуўшы гэтыя словы. Ён жа падумаў, што Закрэўскі даўно ведае Валю, а выходзіць, яны пазнаёміліся нядаўна.

Святло ліхтарыка вырвала з цемры сцежку, пераплеценую вузлаватымі каранямі, высокія, як у гарнальыжніка, чаравікі Закрэўскага. Былы партызанскі разведчык ішоў лёгка, упэўнена: любіў хадзіць па цёмным лесе ды і шлях ведаў добра. Валя ўзяла Віктара пад руку, і ён адчуў тонкі водар духоў ад яе белай шапачкі.

— Хочаце анекдот з жыцця псіхаў? — азваўся Адамейка. — Значыць, у доме для чокнутых. Адзін уключае ў цемры ліхтарык і кажа другому: "Во, бачыш, які слуп святла? Лезь па ім угору". — "Я не дурань, — адказвае той. — Я палезу, а ты выключыш ліхтарык. І я заб'юся".

Усе зарагаталі, хоць анекдот быў стары і не дужа арыгінальны.

II

Нарэшце дабрылі да месца, дзе збоч дарогі былі складзены тонкія бярвенцы, падпіралі іх таўсцейшыя па баках. Дровы былі складзены з улікам напрамку ветру. Прафесар Закрэўскі спрытна наламаў сухіх галінак — і жывы агонь затрапятаў, заскакаў па бярвенцах.

— А цяпер пойдзем далей. Запалім вогнішча на касагоры, — рашуча прамовіў Закрэўскі.

— Ну, навошта? Тут гэтак хораша, — не пагадзілася Валя.

— А будзе яшчэ лепей. Пайшлі, — настойваў прафесар.

— Я салідарны з дамай. Чаго перціся далей, калі і тут добра? А каб яшчэ па кроплі гарэліцы, — Адамейка агледзеў калег. — Мужыкі, дзе вашы торбы з бутэлькамі? Ну, з гэтым старым правакатарам-падпальшчыкам усё ясна. Ён п'е з піпеткі. А дзе твая бутэлька, Віктар? У цябе кішэні вялікія. Даставай...

Малады гісторык Бародзіч быў самы высокі і мажны сярод іх. Ён паляпаў па кішэнях курткі, маўляў, — пуста.

— Я хачу абараніць Васіля Антонавіча. Мы выпілі перад вячэрай.

— Няўжо? Вось дзіва! Грамаў па дзесяць? — хіхікнуў Адамейка.

— Не. Мы выпілі грамаў па сто. У мяне аж галава закружылася. Я такога зелля зроду не піла. На сямі кветках...

— Гэта нам вядома. Стары чараўнік. А сюды ў лес не ўзялі. Ну, і асталопы. А я паспадзяваўся на іх. Завесці ў цёмны лёс да вогнішча і не ўзяць з сабою пляшку — злачынства. Недаравальнае, — бурчаў Адамейка. Ён уключыў транзістар, і адтуль вырвалася, нібы птушка з клеткі, песенька пра сіні туман, які "похож на обман".

— Падман! Вакол падман. Адно вогнішча натуральнае. Пячэ і свеціць як мае быць, — не заціхаў Адамейка.

— Пайшлі далей. Я вам гарантую цуд на касагоры. Верце мне, Валюша. Хадзем, — настойваў Закрэўскі.

— Ну, калі ў цябе за пазухай грэлка з пэўнай вадкасцю, тады хадзем, — Адамейка выключыў транзістар. Віктар дастаў з кішэні ліхтарык.

Пасунуліся далей. Валя некалькі разоў спынялася.

— Давайце вернемся. Такое вогнішча пакінулі...

— Як адзінокую жанчыну, я ў лесе вогнішча пакінуў, — прадэкламаваў прафесар, тупаючы па цёмнай прасецы наперадзе.

— Вы паэт, Васіль Антонавіч? Вашы радкі? — дапытвалася Валя.

— Не, гэта не я. Нечы радок. Кагосьці з беларускіх паэтаў.

— Вось чаго я не ведаю, дык гэта беларускай паэзіі. Зрэшты, мне можна дараваць. Я не лірык, я — фізік.

— У нашай паэзіі, Валя, ёсць цікавыя хлопцы, — пачаў прафесар, але жанчына яго перапыніла:

— Янка Купала і Якуб Колас, которые пишут так просто, искренно. Нашим бы побольше таких качеств... Прыкладна так пісаў Горкі, здаецца, Кацюбінскаму.

— Ну, Валюша, здаюся. Вы ўсё-ткі лірык, — пасміхаўся прафесар, хоць усмешкі было не відно — выдаваў ягоны голас.

Тым часам падняліся на касагор, дзе быў укапаны стол, нарыхтавана багата дроў. Прафесар пачаў шчыраваць ля вогнішча, Адамейка ўключыў транзістар і прываліўся да стала.

— Глядзіце, Віктар, якая прыгажосць! Кругі гало́ вакол Месяца, — усклікнула Валя з дзіцячай радасцю.

Хоць звярталася яна толькі да маладзейшага гісторыка, усе зірнулі на неба, дзе плыў няпоўны Месяц, атулены рознакаляровымі колцамі.

— Заўважце, Месяц як бы ў вянку. Як нявеста. Ці не праўда? Каля самога Месяца сіняватая кайма, далей жоўтабелы круг. Бачыце, знешні край яго карычневаты, — Валя наблізілася да прафесара, нібы ўспомніла, што дзякуючы яму апынулася тут і любуецца кругамі гало́. — Далей аранжавае колца, густасіняе, зноў аранжавае, толькі вузейшае. Які цуд! Я так даўно не бачыла гэтае дзіва...

Мужчыны маўчалі. Нарэшце Адамейка прабурчэў:

— Гэты цуд мяне ўразіў бы яшчэ мацней, калі б на гэтым стале была пляшка.. От асталопы! Зацягнулі ў лес, а пляшку не ўзялі. І я, стары дурань, даў маху. У мяне ж у нумары пляшка каньяку. А яшчэ там сярдзітая жонка з унучкай...

— Я вам спачуваю. Мабыць, каля вогнішча п'ецца смачней. А кругі гало здаюцца яшчэ ярчэйшымі, — смяялася Валя.

— Менавіта так, каханенькая-родненькая. Дык гэтыя ж піжоны не разумеюць. Адзін член-кар, другі — кандыдат. Узыходзячая зорка гістарычнай навукі. А ў іх не разумеюць, прабачце, Валя, ні храна. Пайсці ў лес на вогнішча... Перад жаночым святам. З прыгожай кабетай і не ўзяць ні кроплі... Гэта дзікунства! Гэта проста недаравальна, — не сціхаў Адамейка.

Прафесар Закрэўскі з паблажлівай усмешкай на асветленым твары завіхаўся ля вогнішча, якое разгаралася ўсё мацней. Віктар адышоўся наламаць яловых лапак, бо самыя прыгожыя іскры, быццам вогненны серпанцін, бываюць, калі ўспыхвае зялёны лапнік.

Тым часам лёгкія аблачынкі схавалі Месяц. Ён зрэдку выбліскваў праз іх. Неба нагадвала заснежанае бугрыстае поле. Вогнішча разгаралася моцна. Віктар кінуў некалькі яловых лапак у агонь, і ўгору сыпанулі іскры-стужкі, якія быццам імкнуліся лізнуць неба тонкімі, звілістымі языкамі полымя.

Вакол Месяца зноў успыхнуў, заззяў шматколерны вянок.

— Зірніце, мужыкі, зноў гало́ паявілася.

Валя пачала тлумачыць, чаму ўзнікае гало́, што бывае яно вялікае і малое. У аблоках ёсць ледзяныя крышталікі, якія маюць форму шасціграннай лінзы, у іхніх гранях святло пераламляецца. Гэта з'ява адбываецца і ў кроплі расы, у крышталіку інею.

— А хто з вас бачыў светлавыя крыжы? — мужчыны маўчалі, таму Валя гаварыла далей: — Бываюць вертыкальныя слупы святла на небе. Вось калі вертыкальны слуп і частка гарызантальнага круга ўзнікаюць адначасова, можна ўбачыць на небе крыж...

— Гэта можа быць толькі з пахмелля, — хмыкнуў Адамейка.

— Ды не. Я не раз бачыла светлавыя крыжы на цвярозыя вочы, — сур'ёзна прамовіла Валя, пачала тлумачыць, чаму ўзнікаюць светлавыя слупы. Яна сыпала такімі словамі: інтэрферэнцыя, дыфракцыя, дысперсія. Віктар разумеў не ўсё, бо фізікай ніколі не захапляўся.

— Усё вы ведаеце, Валюша. А вось скажыце мне, — Закрэўскі зрабіў паўзу, каб усе прыслухаліся да ягоных слоў, — што перажыў першабытны чалавек, калі ўбачыў вогнішча? Якое пачуццё зведаў?

— Уцёк! Даў драла, — рагатаў Адамейка.

— Я думаю, ён паклікаў Еву і сказаў, што на гэтым вогнішчы можна падсмажыць каўбасу, разагрэць тушонку, — адказала Валя.

— Геніяльна! — апярэдзіў усіх Адамейка. — Яны перакусілі. Адам кульнуў гліняны кілішак. Прылашчыў Еву. І пайшлі адамяты...

Усе смяяліся. Віктар перахапіў некалькі позіркаў Валі, скіраваных на яго. Гэтыя позіркі не маглі не хваляваць маладога здаровага мужчыну, згаладалага па жаночай пяшчоце...

— Ёсць прапанова, — сказаў прафесар. — Давайце спусцімся ўніз да ракі. Пабачыце, Валюша, двайное вогнішча. Адлюстраванне ў вадзе і само вогнішча на касагоры. Дзеля гэтага я цягнуў вас сюды.

Адамейка рашуча адмовіўся. Валя спачатку скептычна паставілася да гэтай прапановы, а калі Віктар падтрымаў ідэю, згадзілася.

III

Па цёмнай, але даволі шырокай сцяжыне пакіравалі ўніз. Закрэўскі, як і раней, ішоў наперадзе. Валя ўзяла Віктара пад руку, і ён зноў адчуў пах яе валасоў — цяпер яны больш пахлі дымам вогнішча, чымся духамі. Яна расказала па дарозе, што трапіла сюды выпадкова, нечакана пазваніў Васіль Антонавіч, з якім яна пазнаёмілася нядаўна на канферэнцыі навукоўцаў, павіншаваў са святам, сказаў, што знаходзіцца ў лесе, яна вазьмі ды і ляпні: "Ці можна да вас прыехаць у лес?" Як сапраўдны джэнтльмен, Закрэўскі запрасіў яе...

Валя апавядала гучна, каб чуў і прафесар, які тэпаў наперадзе.

— Проста я ўцякла ад тэлефона. Бо ўсё не тыя галасы ў трубцы... Дачка паехала да бабулі, а я адна з тэлефонам... Ведаеце, як роспачна, калі звоніць не той... Замест віншавання атрымала ліст-шчасце. Дурацкі ліст. Магу прачытаць ля вогнішча.

Віктар падтакваў, уважліва слухаў. Яна пачала распытваць пра ягоныя навуковыя справы, ён адказваў скупа: баяўся паказацца хвастуном, ды помнілася жартоўная нібыта фраза Адамейкі, што ён, Віктар Бародзіч — узыходзячая зорка гістарычнай навукі. Яму хацелася гаварыць з Валяй пра адраджэнне Беларусі, пераканаць гэтую разумную жанчыну, што існуе высокая беларуская паэзія, якую ён любіў, але мала ведаў на памяць, затое помніў сотні гістарычных дат.

Яны выйшлі на роўны, пакапаны кратамі луг, перарэзаны звілістай рачулкай, якая віляла ў невысокіх берагах, атуленая кустоўем.

— Якія зоркі! — усклікнула, нібы выдыхнула, Валя. — Божухна! У горадзе іх амаль не відно. Жывеш бы ў клетцы. А тут гэткая прыгажосць! Зірніце, які Альдэбаран яркі! А вунь Сірыус. Вунь над лесам у канцы Млечнага Шляху нават Валасы Веранікі бачны. Даўно не назірала гэтае сузор'е. Цудоўная ноч! А кругі гало зніклі. Дарэчы, яны абяцаюць дождж. Заўтра-паслязаўтра будзе дождж.

— Валюша, ці не занадта вы ўпэўнены? На бутэльку шампанскага, згода? Дажджу не будзе, — працягнуў руку Закрэўскі.

— Згода! — яна пляснула далонёю па руцэ прафесара. — Вы прайгралі, спадар прафесар.

— Вам гатовы прайграць з прыемнасцю, — адказаў Закрэўскі. — А цяпер глядзіце, — ён спыніўся на беразе ракі, дзе яна разлівалася шырэй, і ў люстраной гладзі вады выразна адсвечвалася вогнішча, што гарэла на касагоры.

— Ну, Васіль Антонавіч! Няма слоў, каб выказаць маё захапленне, — чамусьці ціха сказала Валя і змоўкла.

Доўга стаялі на беразе цёмнай рачулкі, потым ускараскаліся на высокі бераг, дзе сціхана дагарала вогнішча. Закрэўскі і Бародзіч прысыпалі яго зямлёй, пабудзілі Адамейку, які смачна пахрапваў пад музыку транзістара.

— Га? Што? — няўцямна пытаўся ён спрасоння. — А, з'явіліся даследчыкі зорнага неба. Мо пляшку знайшлі? Гэта ж так падмануць чалавека! Гэты Закрэўскі падмане і вас, Валя. Не верце ніводнаму слову, — хутка ўвайшоў у сваю ролю буркатлівы Адамейка. — Штосьці стала халадаць і калоць у пятцы... Пайшлі дахаты...

Закрэўскі зірнуў на Валю. Тая кіўнула, маўляў, час вяртацца.

IV

Яны зноў ішлі па цёмнай сцежцы. Віктар уключыў ліхтарык, але Валянціна ўзяла пад руку не яго, а Закрэўскага. "Хітрая баба. Цяпер хінецца да прафесара, бо наперадзе ў іх ноч. Усе бабы такія", — падумаў са скрухаю, згадаў, што заўтра трэба ехаць віншаваць жонку, а ён нічога не купіў. Зноў будзе буркатня.

— Зараз убачым першае вогнішча, — упэўнена абвясціў Закрэўскі.

— Дудкі, яно даўно патухла, — пазяхнуў у цемры Адамейка.

— Вось прамінем паваротку і будзе відаць, гарыць ці не, — сказаў прафесар і тут жа з радасцю дадаў: — "Гарыць! Бачу агонь!"

*(Працяг на стар. 12)*

## Ёсць сваё кола...

**Як вядома, у Гомельскім каледжы мастацтваў імя Н. Сакалоўскага адбылася VI Пеўчая акадэмія. Гэты штогадовы агляд харавога і вакальнага мастацтва прайшоў пад назвай "Музычная культура Беларусі на мяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў".**

**Па традыцыі адкрываў імпрэзу Акадэмічны народны хор Беларусі імя Г. Цітовіча пад кіраўніцтвам прафесара Міхаіла Дрынеўскага. Зала, як звычайна на выступленнях гэтага калектыву, была поўная. Гамяльчанам было прыемна пераканацца ў тым, што хор у цудоўнай творчай форме, праграма выступлення абноўлена ў параўнанні з мінулым годам. Ва ўмовах маленькай сцэны каледжа, мала прыстасаванай для такіх вялікіх выканаўчых калектываў, артысты здолелі стварыць адчуванне святочнасці, весялосці, нацыянальнага духу. Цёпла прымалі слухачы салістак А. Рамашкевіч, В. Крыловіч, вясёлую вакальна-харэаграфічную кампазіцыю ў пастаноўцы В. Варановіча.**

**Упершыню выступіў у Гомелі Акадэмічны хор Бранскага музычнага вучылішча, лаўрэат Усерасійскага конкурсу-фестывалю "Поющая Россия" (мастацкі кіраўнік — Ірына Арлова). Адметнасці гэтага калектыву — майстэрскае валоданне ланцуговым дыханнем, зладжаная тэнаравая група, дакладныя унісоны, разнастайны рэпертуар.**

**Новай формай работы Пеўчай акадэміі сталася выступленне зводнага хору выкладчыкаў музычных вучылішчаў Міністэрства культуры РБ і Гомельскага каледжа мастацтваў (мастацкі кіраўнік — прафесар Віктар Роўда). Выступленню незвычайнага хору папярэднічалі рэпетыцыі, дзе выкладчыкі вучылішчаў краіны рыхтавалі па адным творы. У выніку сем дырыжораў з шасці гарадоў прадэманстравалі сваё ўменне працаваць з новым калектывам пасля трох кароткіх рэпетыцый. Запомніліся *дырыжоры Л. Пясецкая (г. Ліда)*, А. Кашпур (Мінск), У. Курылін (Гомель), Л. Іконнікава (Гродна), Ж. Ялфімава (Магілёў), А. Немец (Баранавічы) і, канешне ж, натхнёнае выступленне кіраўніка хору Гомельскага каледжа мастацтваў Алены Сабалеўскай.**

**Упершыню выступаў на акадэміі і лаўрэат міжнародных конкурсаў дзіцячы хор "Крынічка" (мастацкі кіраўнік і дырыжор Алена Гуляева). Разам з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам дырыжора Пятра Вандзілоўскага юныя артысты выканалі знакаміты твор Дж. Пергалезі "Stabat Mater". (Салісты — Валянціна Пятліцкая (сапрана, Мінск) і Галіна Паўлёнак (мецца-сапрана, Гомель). Гэта была гомельская прэм'ера.**

**Знаныя спевакі і педагогі, прафесар Леанід Івашкоў і дацэнт Беларускай акадэміі музыкі Любоў Каспорская — удзельнікі ўсіх Пеўчых акадэмій. Колішнія гамяльчане, адданыя сваёй альма-матэр, яны не толькі правялі майстаркласы, але і прывезлі адораных вучняў, студэнтаў Акадэміі музыкі — Яўгена Ермакова (тэнар) і Марыну Мажавіціну (сапрана), якія выступілі з канцэртам.**

**Майстарклас Альберта Кашпура, педагога Мінскага музычнага вучылішча *імя М. Глінкі, прысвячаўся працы* з народным хорам Гомельскага каледжа мастацтваў. Ён, выпускнік Гомельскага музычнага вучылішча, не быў тут 35 гадоў. Гэты час быў насычаны вучобай у Мінску, Маскве, Веймары і працай з народнымі вакальнымі калектывамі, у тым ліку, з вядомым ансамблем "Медуніца".**

**Навуковая канферэнцыя прадставіла даклады сталічных мастацтвазнаўцаў Т. Цітовай, Т. Ляшчэні, Т. Слабодчыкавай і выкладчыка ГКМ імя Н. Сакалоўскага, аспіранткі БАМ Т. Кавалёвай.**

**Ужо другі раз наведаў Пеўчую акадэмію кампазітар Андрэй Мдзівані. Ён пазнаёміў слухачоў са сваёй новай працай — операй-балетам "Шлях зямны", расказаў і аб працы з Валянцінам Елізар'евым над балетам "Страсці" ("Рагнеда"), і пра гісторыю стварэння сімфоній "Памяць зямлі" і "Полацкія пісьмёны".**

**Падсумоўваючы вынікі працы VI Пеўчай акадэміі, дэкан дырыжорска-харавога факультэта БАМ Валерый Аўраменка выказаў прапанову арганізаваць Рэспубліканскі конкурс дырыжораў хору, а пры Саюзе музычных дзеячаў стварыць секцыю харавікоў.**

**Думаецца ж, самы важны вынік Пеўчых акадэмій — тое, што ў Гомелі сфармавалася слухацкая аўдыторыя аматараў харавой музыкі. Усе канцэрты праходзяць у перапоўненых залах.**

**Эдуард КІРЫЛЕНКА,**

**дырэктар Гомельскага каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага**

МУЗЫКА

# Смак годнага жыцця

РАДАСЦІ І ТУРБОТЫ АНСАМБЛЯ САЛІСТАЎ "КЛАСІК-АВАНГАРД" — У ГУТАРЦЫ З ЯГО МАСТАЦКІМ КІРАЎНІКОМ Уладзімірам БАЙДАВЫМ



### Партнёрства

**— Ад гуртка энтузіястаў да вядомага філарманічнага калектыву: няпростая "лінія жыцця" ў створанага вамі ансамбля. Але, насуперак шматлікім складанасцям дзесяцігадовага самаадданага існавання ў мастацкім асяроддзі, "Класік-Авангард" увайшоў у айчынную музычную эліту. І ніколі не даваў падставы сумнявацца ў яго прафесійнай рэпутацыі. Сёння ваш ансамбль называюць паўнавартасным камерным аркестрам, аркестрам салістаў-лаўрэатаў, роўнага якому (у мабільнасці складу, у шырыні рэпертуарнага дыяпазону, у культуры ўвасаблення самых розных стыляў, у працаздольнасці) беларускае выканальніцкае мастацтва не мае. У тым, што гэта не проста словы, пераканала і нядаўняя прэзентацыя кампактдыска "Адкрыцці з Беларусі", запісаць і выпусціць які дапамаглі вашаму ансамблю спецыялісты са Швейцарыі. Зрэшты, мы пра гэта ўжо інфармавалі чытачоў "ЛіМа". І абяцалі больш падрабязны аповед пра унікальны беларуска-швейцарскі музычны праект...**

— Сэнс гэтага праекта — у партнёрстве. Падкрэслю, што партнёрства — найкаштоўная форма творчых і сяброўскіх зносін — прынцыпова адрозніваецца ад таннага ангажэмента, на які нярэдка пагаджаюцца беларускія выканаўцы, каб выжыць, крыху падзарабіўшы за мяжой.

На пачатку 90-х падчас Дзён Швейцарыі ў Беларусі мы пазнаёміліся і падрыхтавалі сумесную праграму з нашай госцяй, легендарнай піяністкай Эмі Хенц-Дзіманд. Праз нейкі час "Класік-Авангард" запрасілі да супрацоўніцтва ў межах партнёрства швейцарскага кантонаАаргау з Беларуссю. І вось ужо на працягу пяці гадоў займаемся прапагандай творчасці нашых ды швейцарскіх кампазітараў XX стагоддзя.

Наогул, гэтае партнёрства ў галіне культуры і адукацыі існуе з 1991 года. Апроч нашага калектыву, адміністрацыя кантона запрашае, напрыклад, беларускіх мастакоў, цалкам фінансуе іх візіты, што дазваляе прыязджаць разам з сем'ямі на некалькі месяцаў, працаваць, наладжваць выстаўкі. У галіне музычнай адметнымі падзеямі сталіся не толькі нашы паездкі ў Швейцарыю, праца там над новымі праграмамі, прэстыжныя канцэрты, запісы. Дзякуючы гэтаму партнёрству чацвёра беларускіх кампазітараў — Віктар Войцік, Віктар Капыцько, Вячаслаў Кузняцоў ды Аляксандр Літвіноўскі — атрымалі заказы на стварэнне п'ес для пэўных выканаўчых складаў. Іх новыя творы гучалі потым і ў Швейцарыі, і на Беларусі ў інтэрнацыянальных канцэртных праграмах.

**— Цудоўнае сяброўства! Але ж фінансаванне гэтых праектаў бяруць на сябе замежныя партнёры, і міжволі ўзнікае пытанне...**

— ... "а навошта ім гэта трэба", так? Я не магу адказаць пэўна. Магу толькі разважаць. Здавалася б, там такое насычанае тэатральнае і канцэртнае жыццё: Ааргау месціцца між Базелем і Цюрыхам, зусім побач Францыя, Германія, Італія, праблем з пераездам праз межы няма! Заможны побыт, даступнасць еўрапейскіх мастацкіх каштоўнасцяў... Але ў Міністэрстве культуры кантона Ааргау працуе чалавек, які займаецца кантактамі менавіта з Беларуссю — краінай, якая толькі-толькі адкрываецца свету! Можа, мы цікавыя для іх як новая з'ява? Што да "Класік-Авангарда"... Дапускаю, што тут супрацоўніцтва само па сабе выгоднае. Ансамбль мабільны — і стацыянарны, маем магчымасць 2-4 месяцы працаваць над новым сучасным творам. У Швейцарыі для выканання музычнай прэм'еры даводзіцца камплектаваць ансамбль з удзельнікаў розных аркестраў, бывае — з розных гарадоў, і на падрыхтоўку выпадае ці не тры дні. Вядома ж, гэта адбіваецца на якасці. А кожная мінута гучання аплачваецца швейцарскім выканаўцам вельмі высока. За мяжой кошт працы музыканта і ведаюць, і цэняць. Але ж там цэняць і яе якасць... Вось чаму супрацоўніцтва з "Класік-Авангардам" задавальняе нашых тамтэйшых партнёраў.

### Народная дыпламатыя

**— Вашы вандроўкі ў Швейцарыю, сапраўды, прынцыпова адрозніваюцца ад камерцыйных гастроляў з іх перанасычаным графікам выступленняў (ноч на колах — рэпетыцыя — канцэрт і г. д.), з нярэдка *зневажальнымі для чалавечай і прафесійнай* годнасці ўмовамі. Вас атуляе там сяброўская ўвага, атмасфера творчых стасункаў. Вы, я ведаю, мелі магчымасць адпачыць, паглядзець некаторыя адметныя мясціны — ад старадаўніх кварталаў Берна да унікальнага альпійскага запаведніка. Вы ўдзельнічалі ў музычных фестывалях, нават адкрывалі сваёй праграмай філарманічны абанемент. Прыгожае свята швейцарцы наладзілі для "Класік-Авангарда" з нагоды прэзентацыі CD "Адкрыцці з Беларусі". Апроч гэтага дыска, запісанага брыгадай спецыялістаў фірмы "Basf" у студыйных умовах (але ў Мінску, на "Беларусьфільме") і ўключанага ў сусветны каталог, вы атрымалі так званы рэкламны CD, выдадзены на аснове запісу з канцэрта ў Швейцарыі і названы "Ансамбль плюс..."**

**Вы вяртаецеся адтуль з пачуццём уласнай музыканцкай годнасці, у радасным стане... А якія "радасныя эмоцыі" вымушаюць прыязджаць да нас музыкантаў са Швейцарыі? Для іх жа гэта, як і для вас, — частка партнёрскіх стасункаў, а не камерцыйныя гастролі...**

— Так, яны не атрымліваюць ганарараў ні за канцэртныя выступленні, ні за лекцыі ды майстаркласы ў нашых навучальных установах. А да ўсяго — сутыкаюцца з недарэчнасцямі нашай "цывілізацыі", побыту, якія заможным еўрапейскім грамадзянам бывае цяжка растлумачыць. Але музыканты — людзі далікатныя і захопленыя мастацтвам. Галоўнае для іх — свежыя творчыя ўражанні. Гарачая шчырая публіка на канцэртах, якой бракуе ў швейцарскіх залах, калі там гучыць сучасная і не разлічаная на масавы густ музыка. Зацікаўленая і таленавітая беларуская моладзь, якая наведвае майстаркласы. (Дарэчы, яна атрымлівае высакаякасныя бясплатныя кансультацыі, што за мяжой каштуюць вялікіх грошай).

Істотная канкурэнцыя сярод кваліфікаваных музыкантаў на Захадзе не заўсёды дазваляе ім рэалізаваць сябе ў педагогіцы: бывае, і прафесар вымушаны выкладаць навучэнцам сярэдняй спецыяльнай музычнай установы. А тут яго слухаюць студэнты Акадэміі музыкі: зусім іншы ўзровень прафесійных стасункаў! Словам, нашы швейцарскія партнёры адчуваюць нейкае душэўнае прыцягненне да Беларусі...

Кажуць, музыка — лепшы дыпламат. І за гады нашага супрацоўніцтва са швейцарскімі калегамі я ў гэтым пераканаўся. Праз мастацтва людзі, народы, краіны бліжэй, на неафіцыйным, душэўшым узроўні знаёмяцца адно з адным. Узнікае ўзаемная цікавасць, давер, сяброўства. Спадарыня Эмі Хенц-Дзіманд, вучаніца славутага Аліўе Месіяна, адна з энтузіястаў адраджэння Міжнароднага таварыства сучаснай музыкі, выдатная піяністка і педагог, якая ўжо неаднойчы пабывала ў Мінску, заснавала фестываль "Еўрапейскі пасаж". Мэта — адкрыццё мастацтва краін, скажам так, постсацыялістычнага свету. Разам з прадстаўнікамі Славакіі, Грузіі, Албаніі былі там беларускія музыканты, удзельнічалі ў пасяджэннях секцый па розных аспектах музычна-сацыялагічных праблем. Калі выступіў старшыня Віцебскага музычнага таварыства Уладзімір Правілаў і паведаміў, што ў абласным Віцебску праводзіцца два дзесяткі фестываляў, гэтая лічба выклікала ў аўдыторыі шок. Праўда, распытаўшы, што ды як, уражаныя еўрапейцы былі расчараваныя: у вас, маўляў, толькі два сур'ёзныя фестывалі — Міжнародны музычны імя Салярцінскага ды Сучаснай харэаграфіі. Вось пра два і трэба казаць, *а для горада з паўмільённым на*сельніцтвам гэта вельмі мала. Фестывалі акадэмічнага напрамку, якія фарміруюцца па прынцыпе гала-канцэртаў, хай сабе з удзелам знаных імёнаў, а таксама эстрадныя, песенныя шоу, якія ва ўсім свеце лічацца галіной камерцыі і дзяржавай не фінансуюцца, — усё гэта ў разлік не прымаюць.

Удзел Беларусі ў "Еўрапейскім пасажы" паспрыяў таму, што нас заўважылі і прынялі як нармальных еўрапейцаў, хаця і з нейкага "экзатычнага" жыцця. Беларусь адкрылася як краіна цікавых творчых людзей, вартых таго, каб далучыцца да вялікага сучаснага музычнага свету.

### Як "згарае" грант

**— Аднойчы вы расказалі мне, як ішла праца над CD. Тры месяцы рыхтаваліся да запісу, рэпеціравалі дзень і ноч. З розных варыянтаў праграмы ў доўгіх пакутах быў абраны і "зацверджаны" швейцарцамі адзін: сем разнажанравых і рознастылёвых твораў. Запісвалі тыдзень. Апроч непазбежных творчых праблем, узнікалі зусім пабочныя — з-за тэхнічнага стану інструментаў, на якіх даводзіцца граць нашым віртуозам. Але ж яшчэ на пачатку 90-х вы звярталіся ў тагачасны Савет Міністраў з просьбай дапамагчы ўкамплектаваць інструментарый ансамбля!**

— З 91-га года "Класік-Авангард" не атрымаў ніводнага інструмента, якімі яго павінна забяспечыць дзяржава. Уласныя інструменты нашых музыкантаў далёкія ад дасканаласці. Фагот ужо зусім "на ладан дыхае". Кошт новага фагота — 20 тысяч долараў. А заробак фагатыста, калі з рублёў пералічыць, — 25-30 долараў. Я падаў заяўку ў Фонд Прэзідэнта па падтрымцы культуры і мастацтва. Напісаў, што ансамбль мае патрэбу ў набыцці 19-ці інструментаў. У выніку "Класік-Авангард" атрымаў грант — 20 мільярдаў беларускіх рублёў (недэнамінаваных). На той момант столькі каштаваў адзін прафесійны габой...

Але нам не ўдалося набыць нават яго! Музыкантам тлумачыць не трэба, што інструменты купляюць у замежных фірмах. Таму рублі трэба перавесці ў канверсоўную валюту і пералічыць на рахунак фірмы. За нас гэта мусіў зрабіць банк, дзе захоўваецца наш грант. А валюты ў банку няма. Час ідзе, і сёння, счакаўшы пару гадоў, мы ўжо не купім за тыя грошы ніводнага інструмента. І калі нам раяць: хутчэй здыміце гэты ўклад у рублях, пакуль інфляцыя зусім не "з'ела", — я толькі пасміхаюся. Сёння на гэтую суму можна купіць, напрыклад, каніфоль для смыкоў. Ці сотню жалезных нотных пультаў, якія, дарэчы, у нас каштуюць утрая даражэй, чым у Германіі.

**— Грошы ўсё роўна "згараць". Можа, ёсць рацыя ў тым, каб набыць за іх неабходныя дробязі? Кшталту нотнай паперы, стрыжняў для асадкі? Усё гэта было б смешна, калі б...**

— Можа быць і не смешна! Уяўляеце? Накупляем "неабходных дробязяў", стрыжняў з алоўкамі, а да нас — праверка: "Мы вам давалі грошы на інструменты, дзе яны? На што вы патрацілі 20 мільярдаў? На алоўкі?!!" Карацей, не будзе ні інструментаў, ні грошай, а могуць быць вялікія непрыемнасці з фінансавымі органамі і г. д. Так што няхай ляжыць у банку наш грант. Можа, палепшыцца эканамічная сітуацыя, пададзім новую заяўку, атрымаем дапамогу...

### "Каб дзіця было здаровае..."

**— Вядома ж, вы жывяце не толькі ўспамінамі пра Швейцарыю ці трывогамі**

**за лёс Міжнароднага фестывалю імя Салярцінскага, адным з арганізатараў і мастацкім кіраўніком якога маеце клопат быць. Сама назва вашага ансамбля сведчыць пра творчую ненасытнасць; пэўна, вы захоплены ўжо нейкай новай музыкай, публіка можа чакаць сюрпрызу...**

— Проста канцэрты — гэтага мала! Партнёрства з кантонам Ааргау — гэтага мала! І фестываль імя Салярцінскага ў Віцебску — адзін, для годнага музычнага жыцця сучаснай краіны гэтага мала! Нам патрэбны свой фестываль сучаснай музыкі, але не мясцовага маштабу. Каб да нас прыязджалі замежныя выканаўцы, кампазітары, рэпарцёры — і ім было б тут цікава. Каб мы ведалі, чым жыве сёння музычны свет і маглі паказаць гасцям (ды і сваёй публіцы) лепшае, што ёсць у нас: у выканальніцтве, у творчасці, у тым ліку — эксперыментальнай.

**— Такога фестывалю не хапае і нашым кампазітарам. Яны наракаюць на адасобленасць сваёй суполкі ад сусветнага музычнага працэсу, ад міжнароднага фестывальнага жыцця. Скардзяцца на безграшоўе. Успамінаюць пачатак 90-х, калі і ў Мінску ўдалося правесці Міжнародны фестываль сучаснай музыкі, здабыць каштоўныя ноты (арэнда партытуры, пра што не ўсе здагадваюцца, — рэч не танная), прыняць замежных гасцей, адкрыць малавядомыя для нас, але знаныя ў свеце імёны і сябе паказаць. Тыя фестывальныя праграмы, дарэчы, трымаліся "на плячах" маэстра Байдава...**

— Удакладню: тады многае трымалася на энтузіязме. А час змяніўся. Рынак бярэ сваё. І эканамічная сітуацыя ў краіне складаная. Каб сёння падрыхтаваць адмысловую канцэртную праграму, нават не фестываль, трэба шукаць, хто б аплаціў працу запрошаных музыкантаў, салістаў, якіх няма ў штатным раскладзе калектыву. Артысты без асаблівага натхнення рыхтуюць прэм'еры, даруйце, аднаразовага выкарыстання: сыгралі — і забыліся, бо перспектывы "пракату", паказу на гастролях, на фестывалях, за мяжой, па сутнасці, ніякіх. Не ўсе кампазітары такую сітуацыю разумеюць, таму і скардзяцца, што "Класік-Авангард" рэдка грае беларускую музыку.

Шчыра хацеў бы рабіць гэта часцей, але... Па-першае, за 10 гадоў перайграўшы (здаралася, і адрэдагаваўшы) сотні партытур, дырыжор мае права, і абавязаны, патрабавальна ставіцца да іх мастацкай і прафесійнай якасці. Па-другое, у рэпертуары можа быць толькі тое, што адпавядае сталаму складу калектыву і не вымагае запрашэння музыкантаў "збоку". Яны зусім законна прэтэндуюць на ганарар, а ў бюджэце ансамбля такія выдаткі не прадугледжаны, таму вырашэнне праблемы ўскладаецца на аўтара твора, і добра, калі яму пашанцуе знайсці спонсара ці неяк дамовіцца са сваім выканаўцам хаця б на адно выступленне. Іншая справа — запатрабаванасць твора або цэлай праграмы для канкрэтнага праекта з гарантаваным фінансаваннем.

Вось чаму ўсім, адказным за лёс беларускай музыкі, трэба імкнуцца да найхутчэйшага ажыццяўлення ідэі **свайго міжнароднага фестывалю**! Кантакты з іншаземцамі паспрыяюць таму, што нас будуць лепш ведаць, больш паважаць, часцей запрашаць да сябе і менавіта з **нашай** музыкай, на якую з'явіцца попыт.

На жаль, нашы кампазітары, сярод якіх ёсць сапраўды таленавітыя, неардынарныя, у нейкіх цяперашніх праблемах вінаватыя самі. На пачатку 90-х мелі жыццяздольную, як тады здавалася, маладую творчую суполку — Беларускую асацыяцыю сучаснай музыкі. Увайшлі на правах секцыі ў Міжнароднае таварыства. А сутыкнуўшыся з праблемамі рынкавага жыцця, кінулі сваё дзіця на волю лёсу. У выніку страцілі разліковы рахунак, статус юрыдычнай асобы, членства ў Міжнародным таварыстве. Магло ж быць інакш!

**— Не бяруся іх судзіць. Індывідуальнасць, замкнёная ў сваёй "творчай вежы", і здольнасці арганізатара, здабытчыка грошай, рэдка спалучаюцца ў адным чалавеку. Мабыць, такія людзі ёсць. Ды і вы расказвалі мне пра кампазітараў-масквічоў, паслядоўнікаў справы Эдысона Дзянісава, якім удалося знайсці сродкі на нядаўні Міжнародны фестываль сучаснай музыкі. Там — іншае жыццё. А нашы творцы ды выканаўцы вымушаныя вырашаць надзённыя праблемы: як зарабіць на ўласнае існаванне, падтрымаць сям'ю...**

— Але павінен жа і ў нас з'явіцца энергічны лідэр, здольны папрацаваць на калектыўную ідэю, убачыць перспектыву будучага фестывалю, сабраць творчую і працаздольную каманду (я таксама далучыўся б). Каб людзі адчувалі адказнасць за новы фестываль як за прэстыж сваёй краіны, як за сваё дзіця і маглі б ахвяраваць уласнымі амбіцыямі — хай бы толькі гэтае дзіця нарадзілася і было здаровае.

**— Пагаджаюся: фестываль такога кшталту патрэбны Беларусі. Дзеля годнага і перспектыўнага жыцця новай генерацыі музыкантаў, творчых талентаў. Дзеля годнасці айчыннай культуры. Ёсць ідэя, выканаўцы... Чакаем лідэра?**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: "дэсант" ансамбля "Класік-Авангард" на вуліцах Берна.*

ПРЭМ'ЕРЫ

# Адносіны між смяротнымі — бессмяротныя

***Іх параўноўваюць не без падставы, — "Князя Вітаўта" купалаўцаў і тюгаўскую "Палачанку", — "легенду сівой даўніны" і "трагічную легенду". "Князь Вітаўт" сцвердзіўся паспяхова: вылучаны на Дзяржаўную прэмію Беларусі. "Палачанка" — юная, рухавая, гнуткая, упраўная ў сваім поспеху...***

З гісторыі драматург Аляксей Дудараў, аўтар абедзвюх п'ес, ашчадзіў нешматлікія сюжэты ды імёны. У "Палачанцы" — яго, князя Наўгародскага, і яе — князёўны Полацкай. Мастак Барыс Герлаван у "Вітаўце" адным зрухам асталёўваў на сцэне брамы ды пляцы гарадоў. У "Палачанцы" — прастуе па прасторах канатнага лесу, дасціпна спушчанага ім з-пад каласнікоў. Ці то прывідны востраў, які цягнецца ад Ноўгарада да Полацка, ці то магічная прастора, што зводзіць маладых людзей, Уладзіміра і Рагнеду, на Ярылавых абрадах. Натуральна, для кахання, якое раз і назаўжды. Рагвалод, адпрацоўваючы гістарычную ролю бацькі, з палітычнаю абачлівасцю не пускае сваю палачанку замуж за Уладзіміра, — яе прасватаў ужо Яраполк. Уладзіміраваму свату Дабрыню адмаўляе... служанка Рагнеды, — яе прымусіў і падвучыў Рагвалод. Адмаўляе летапісным тэкстам пра раба, якога яна не жадае разуці. Абражаным сватам робіцца дзядзька Уладзіміра, ён самы — ваявода, — самалюбівы да хваробы і шчыры ў сваіх памылках. Уладзімір з лёгкай рукі драматурга падначальваецца свайму летапіснаму лёсу, вырашаючы лёс палачанкі, Полацка ды нашай агульнай радзімы: горад, у якім валадарыў Рагвалод, каханне горкай славай агарнула... Так нам, нашчадкам, і трэба.

Але рэжысёры Валерый Раеўскі ("Князя Вітаўта") і Андрэй Андросік ("Палачанкі") разышліся ў сваім спачуванні нам, нашчадкам і гледачам. Рэжысёрская рацыя абодвух палягае ў тым, што яны не дамагаліся так званай гістарычнасці: не захапляліся адпаведнымі раманамі, не спасылаліся на падручнікі ды каментарыі навукоўцаў. Раеўскаму важней тэатральная пераканаўчасць, для якой усе сродкі прыдатныя, Андросіку — пачуцці добрыя. Раеўскі вынайшаў цвёрдую, жорсткую сцэнічную структуру. Яна не гнецца ні пад якім гастрольным ветрам, ні пад якім гукам аглушальнай фанаграмы, а персанажы яшчэ і філасофнічаюць. Андросік стварыў светы: зусім плыткі, празрысты — Полацкі; зменліва-пластычны, больш устойлівы — Наўгародскі. Андросік прадставіў супрацьлегласці ў сваім адзінстве: таямнічы, светлы, пяшчотны свет Рагнеды і не менш таямнічы, не менш прыцягальны свет мужчынскі, — князя Уладзіміра. Свет чакання, кахання і любоўных абрадаў (балетмайстар — Марына Дударава) і свет ваярскіх гульняў, забаў, адзінаборстваў, — рытуалаў, у якіх моц духу й цела то ўтаймоўваецца, то адпускаецца на волю.

Красамоўная і функцыянальная дэталь — крыніца на авансцэне — яднае абодва светы. Музыка Уладзіміра Кандрусевіча задае ды падтрымлівае іх адзінства. Трагедыю спараджае яго распад.

Андрэй Андросік і Барыс Герлаван адхрысціліся ад звыклай тэатральнай масоўкі. Абодвух цікавіў не побыт, не характарная маляўнічасць, але пэўныя складнікі тэатральнага абраду й рытуалу. Таму ўперад выхаванцаў акцёрскага факультэта Акадэміі мастацтваў мусілі выйсці маладыя людзі са Школы ваярскіх мастацтваў "Тайпін" (трэнер — Барыс Самасюк). Яны ўтварылі найгодную дружыну князя Уладзіміра, падтрымалі сцэнічны рытуал, узнімаючы спектакль на ўзровень дзейства (рэжысёр па пластыцы — Вячаслаў Іназемцаў). У спектаклі вызначаны моманты іх імправізацый. Дзеянні кожнага настолькі пераканаўчыя, што насамперш выхад ваяводы Дабрыні ў выкананні Анатоля Жука стаўся выхадам за рамкі персанажа другараднага і падначаленага (па сюжэце). Дабрыня, адметны ўжо дзякуючы выканаўцу, у такім атачэнні набыў новага маштабу, іншае значнасці, вылучыўся ў першы шэраг тых роўных, што па сабе раўняюць гісторыю. (Аддамо належнае акцёрскай асобе Анатоля Жука і галерэі ягоных адметных вобразаў з тюгаўскіх спектакляў апошніх трох-чатырох гадоў!).

На таго, каму шанцуе вызначаць гісторыю, — як на вецер, па якім трымаецца нос, — раўняе Ігар Сідорчык наўгародскага шпега і кіеўскага пасланца Блуда. Шкада, выраз твару, на якім укаранёны гэты нос, у сцэнах з Дабрынем часцей выпадае аценіць... Блудаваму капюшону. Глядач, разумеецца, не самы абазнаны. Балазе, Аляксандр Палазкоў у гэтай ролі з-пад капюшона паказваецца часцей. І таму зразумела гнуткая Блудава роля ў заваяванні і ўсталяванні кіеўскай дзяржаўнасці.

Вартасная ўзаемазалежнасць персанажаў не смыліць вачэй, але ўражвае моцна. Вартасці князя Уладзіміра аддана і жорстка пільнуе Дабрыня. Уладзімір сваім стаўленнем узвышае (а потым зневажае) каханую Рагнеду. Рагнеда міжволі выпрабоўвае Рагвалода: сведчанні даччынай любові ды адданасці пераймае Рагвалодаў допыт служанкі Любавы (Вольга Бранкевіч) і яе прымус да хлусні дзяржаўнай значнасці. На з'яўленне Уладзіміравых сватоў, на зацікаўленасць Дабрыні і асабліва на паднашэнне мяча (у бліскучым выкананні Уладзіміра Дзям'янцава) Рагвалод рэагуе надта ўжо па-княжацку, але неяк не памужчынску (дый служкі ягоныя... у куртатых штоніках). Стрыманасць ды дзяржаўная абачлівасць акцёра Івана Шрубейкі падобны на ўпартасць бязвольнага бацькі. Ягонае "не пойдзеш за Уладзіміра, пойдзеш за Яраполка" выдае на шараговую кампенсацыю за ўласную недаацэнку ў суровых мужчынскіх вачах: ён, відаць, не ваяр, не мараплаўца, не цесля... Ён — той найслабейшы звянчак драматургічнай упарадкаванасці і яшчэ вытлумачальнага грамадскага ладу, імя якому — палітык. Спецслужба Ноўгарада на імя Блуд абувае яго ў лапці чыстай, адназначнай праўдай і звычайным бляўзганнем языка.

Моц п'есы і спектакля, натуральна, у каханні. Каларытная, строгая Мамулька Таццяны Жданавай сцвярджае, што багі каханых на нябёсах зводзяць, — такіх, як Рагнеда (Ала Паплаўская) і Уладзімір (Алег Сідорчык).

Рагнеда — дзіця ўзросту Джульеты. У Алы Паплаўскай яна здатная на спагаду, на каханне, на рахаванне. З юначым уяўленнем пра вартасці й заганы, са сваім кодэксам гонару. Цяжар радавой годнасці яшчэ не гарбаціць яе плечы. Яна — сама трапяткая шчырасць. Натуральнасць, пазбаўленая какецтва, капрызаў, выбрыкаў.

...Уладзімір толькі-толькі выблытаўся са смяротных абдымкаў кіеўскай палітыкі і паганскіх звычаяў. Ён блукаў па лесе, бачыў сон, у якім маці папярэдзіла пра з'яўленне "яе" і ўкахаўся, не спытаўшы ні імя, ні звання. Укахаўся і прымусіў бліжэйшых дружыннікаў шукаць яе, — без імені, без звання. Знайшоў сам насуперак праўдзе жыццёвай і, месцамі, мастацкай. Аддзячыў Ярылу. Прасіў толькі дачакацца сватоў...

Прафесійны гарт акцёра Алега Сідорчыка ўзняў раманныя ўчынкі персанажа на вяршыню існага глядацкага даверу. Лагічна, што сцэнічная драма Уладзіміра, цалкам залежная ад летапіснага "не хачу разуці рабыніча", больш выявілася вонкава, — у руху, дзеяннях, пластыцы. Агаломшаны здрадлівай, зневажальнай фанабэрыяй Рагнеды, ён паўтарае "раб, раб", зацвярджаецца, дранцвее ў сваёй помсце: "паскудны княжацкі нораў узыграў". Здранцвелым ён выслухвае праўду самой Рагнеды, — маўляў, і ты паверыў?.. Ён — паверыў. З гэтай праўдай ён руйнаваў Полацк і трапіў у фінал спектакля. Дзе, па ідэі, прыняў праўду Рагнеды...

Гвалт на сцэне эстэтызаваны да межаў уяўнага, умоўнага — Рагнеда таксама яго ўнікае, як, зрэшты, і помсты. Яе выхад да Уладзіміра ў чорным, з абрэзанай касой, — увасабленне трагічнага непаразумення. Акурат тыя дзеці, што распачыналі сваім выхадам спектакль, выбягаюць да крыніцы на авансцэне: ён і яна, зведзеныя багамі на нябёсах. Працяг жыцця, у якое ўзіраецца Уладзімір.

Дзеці гушкаюцца на арэлях.

Усеагульны паклон-эпілог.

Эмацыйная паўза.

Хвіліна, каб згадаць з Пастэрнака: адносіны між смяротнымі — бессмяротныя.

**Жана ЛАШКЕВІЧ.**

*На здымках: моманты са спектакля.*

*Фота Віт. АМІНАВА*





# "Сваё дзела як трэба рабіў..."

### ДА 160-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Францішка БАГУШЭВІЧА

Уладзімір СОДАЛЬ

## Ён думаў пра Беларусь

Першы ўсерасійскі перапіс насельніцтва быў праведзены ў 1897 годзе. Паводле яго на Беларусі жыло 6 мільёнаў 495 чалавек. З іх пяць мільёнаў 845 тысяч (дзевяноста працэнтаў) у сельскай мясцовасці і толькі шэсцьсот пяцьдзесят тысяч у гарадах.

За гэтым перапісам уважліва сачыў Францішак Багушэвіч — прысяжны паверэны Віленскай адвакатуры і беларускі песняр. Яшчэ за шэсць гадоў да перапісу ў сваёй маніфестычнай "Прадмове" да "Дудкі Беларускай" ён напісаў: "Нас жа не жменька, а з шэсць мільёнаў — больш, шмат больш, не раўнуючы, як жыдоў, напрыклад, або татараў ці армянаў".

Рыхтуючы да друку сваю "Дудку Беларускую", пісьменнік ужо дакладна ведаў пра свой народ усё — і пра ягоную колькасць, і пра ягоныя межы, і ягоныя землі, і пра эміграцыю беларусаў за мяжу. З асаблівай цікавасцю чакаў звестак аб роднай мове. Вынікі перапісу падаліся яму крыху заніжанымі. Частка насельніцтва, найперш з заходняга абсягу, роднай мовай называлі польскую. На Брэстчыне — украінскую, на Усходзе — рускую. Па некаторых меркаваннях, колькасць беларусаў была заніжана працэнтаў на васемнаццаць. Такой думкі трымаўся і расійскі гісторык У. Кабузан. І нічога ў гэтым дзіўнага. Насельніцтва Беларусі прайшло праз такую гістарычную малатарню, што шмат каму цяжка было вызначыць і сваю родную мову, і нацыянальнасць. "Але ўсё гэта нічога, — думаў Ф. Багушэвіч, — галоўнае — гэта афіцыйныя звесткі, якія ўжо не адно стагоддзе сцвярджаюць: беларускі народ быў і ёсць. А калі ён ёсць, то мае права і на сваё самабытнае жыццё... Гэтая думка, хоча хто гэтага ці не, з кожным годам будзе ўсё больш і больш выразна вымалёўвацца, набываць выразныя абрысы. І гэтак будзе да тае пары, пакуль народам цалкам не авалодае нацыянальная свядомасць...".

Гэтак думалі і іншыя сыны беларускага краю. Марыя Канапніцкая казала: "Тое, што там народзіцца калісьці ў народным асяроддзі, не будзе ні Польшчаю або Літвою, але Беларуссю. Выгрызецца ўсё палітычнае, застанецца толькі этнаграфічнае".

...Беларусь ішла насустрач свайму лёсу. Лепшыя сыны народа, сярод іх і Багушэвіч, гукалі свет убачыць гэтую самабытнасць і прызнаць за беларусамі права народам звацца. На гэтае права працаваў і першы ўсерасійскі перапіс насельніцтва 1897 года.

## Сын надзеі

Калі ўважліва пачытаць Багушэвічавы лісты да Яна Карловіча, то ў іх можна напаткаць нямала песняровых самахарактарыстык. Так, прыкладам, у лісце за 4/3-20.02. 1885 года Ф. Багушэвіч называў сябе чалавекам, "які нарадзіўся так, што яго "эпоха" ніколі не надыдзе".

Гэтая самахарактарыстыка ўражвае сваёй безвыходнасцю. Але трэба было жыць, і ён жыў і як мог мяняў гэтае жыццё, уплываў на яго.

У лісце за 30.XII.1889—11.01.1890 паэт называе сябе "сынам надзеі". Сын надзеі! Яшчэ адна трапная самахарактарыстыка!

У 1890 годзе Ф. Багушэвіч сустракаў першае сваё паўстагоддзе. "Прамываў цукар у вадзе!" — скажа ён пра свой пражыты шлях. І далей: "Яўрэйскі, трыццаць гадоў нячышчаны самавар не мае столькі ўкамянелага накіпу, колькі яго на маёй збалелай нэндзнай душы!" Гэты песімізм не пакідаў Ф. Багушэвіча з году у год. Тым не менш, ён настойліва працаваў, пераводзячы свой песімізм у гумар, у надзеі.

## Панарскі салавей

Альгерд Абуховіч, адказваючы Ф. Багушэвічу на заўвагі пра мову яго твораў, як вядома, напісаў:

***У гаворцы ёсць ружніца***
***Між маёю і Тваей:***
***Маёй — пушчы, Пціч граніца,***
***Ты — Панарскі Салавей!..***

Многія даследчыкі Багушэвічавай творчасці Абуховічава вызначэнне "Панарскі Салавей" вытлумачваюць па геаграфічнай прыкмеце, па назве пагоркаў паблізу Вільні, якія называюцца Панары.

Не буду аспрэчваць гэтую версію. Недалёка ад Кушлянаў таксама ёсць такая геаграфічная назва — Панара. І не адна. Гэта і аднайменная вёска, і чыстая, як сляза, рачулка Панарка, правы прыток Ашмянкі, па берагах якой размясцілася шмат утульных вёсачак. Быў тут колісь і млын Панара. Таную ж назву меў і двор пана Нарковіча. Між іншым, менавіта з гэтай мясціны бярэ выток Панарка. Зараз гэта паблізу ад вёскі Татаршчына. То ці не гэты кут меў на ўвазе Альгерд Абуховіч, калі называў Ф. Багушэвіча "Панарскі Салавей"?

Як мне падаецца, гэтая версія больш верагодная. Мабыць, найперш мову родных мясцін Ф. Багушэвіча, блізкіх да Кушлянаў, дзе ён рос, гадаваўся, меў на ўвазе А. Абуховіч. Гэтая мова тут і цяпер такая. Хоць не выключаю, Абуховіч мог мець на ўвазе і Панарскія горы як вобразнае вызначэнне ўзлёту творчага таленту А. Багушэвіча. Тым больш, што ў наваколлі Вільні дый шмат дзе за ёю гучала тая ж самая мова, што і на абшары кушлянскіх Панараў.

## А конь добры быў — мой белы...

Багушэвічы, як і ўсе тагачасныя фальварковцы, мелі сваіх коней. Як жа інакш! Без коней ні туды і ні сюды. На конях ездзілі да касцёла, на кірмашы. Багушэвічы ездзілі ў брычках і вазках. Моладзь любіла ездзіць і верхам... Па-свойму любіў коней і Ф. Багушэвіч. Мне вельмі арганічна ўяўляецца ягоная постаць на кані: і маладым, і больш сталым... Коні часта згадваюцца і ў творах паэта. У вершы "Здарэнне" Ф. Багушэвіч расказвае пра сваю паездку з Кіяны праз Ваўкелы. Гэтая паездка была поўная прыгодаў. Таму і верш названы "Здарэнне".

***Ехаў я раз ад Кіяны,***
***Ды ў Смургоні, і не п'яны,***
***І даехаў на Ваўкелы,***
***А конь добры быў — мой белы...***



*Мемарыяльная дошка на радзіме паэта. Фота Анатоля КАЛЯДЫ.*



*Ф. БАГУШЭВІЧ, 1863 г.*

...Белы конь!.. Гэта толькі паэтычная дэталь для рыфмы: "Ваўкелы — белы" — ці нешта значна большае?!

Белы конь, як вядома, заўсёды з'яўляўся сімвалам веліча... А што ён значыў для Багушэвіча? Звычайна на белых конях ездзілі верхам... На белых конях урачыста заязджалі ў сталіцы пераможцы. На белым кані ездзіў Напалеон, начальнік Польскага краю Юзаф Пілсудскі. А тут белы конь, запрэжаны ў звычайныя сялянскія драбіны...

Што ж гэта значыць?.. Белая масць — светлая масць. Яна добра свеціцца ў цемры. Яна адганяе злыя духі, палохае іх. Хіба гэтак трэба ўспрымаць белую масць каня ў вершы "Здарэнне"?

Згадваюцца коні і вершы "З кірмашу". У гэтым творы малады павеса спяшаецца да сваё каханкі. Праўда, чамусь ён ляціць да яе не на стаенніку, а на кабыле: "Гэй, ляці кабыла, хоць ты падарвіся, Бо мяне чакае там мая Людвіся!.."

Аднаго разу згадвае свайго сямейнага каня Ф. Багушэвіч і ў лісце да Яна Карловіча. Праўда, масці яго не называе. Але азначэнне дае. Называе яго дробным Расінатам. А, як вядома, такую мянушку меў конь Дон Кіхота.



*Ф. БАГУШЭВІЧ са сваім сябрам М. НАСЕНКАМ. 1867 г.*

## Знайшоўся сонечны гадзіннік

У сваёй кніжцы "Кушлянскі Кут", распавядаючы пра сонечны гадзіннік на паэтавай сядзібе, які немаведама куды знік пасля першай сусветнай вайны, я выказаў меркаванне, што ён павінен калі-небудзь знайсціся. І вось пліта напраўду знайшлася. А знайшоў яе ніхто іншы, як цяперашні апякун Багушэвічавай сядзібы, дырэктар мемарыяльнага музея Алесь Жамойцін. Было гэта так.

Бураю на Багушэвічавай сядзібе зваліла дрэва. Пачалі яго церабіць, разбіраць. І якраз на тым месцы нага на нечым каўзанулася. Разгрэблі лісцё, зямлю, там чыгунная пліта з-пад сонечнага гадзінніка. Знаходку А. Жамойцін перакаціў бліжэй да Багушэвічавага дома, каб была на воку, і часова ўладкаваў у славутай кушлянскай альтанцы. Пліта гэта круглая, чыгунная, падзеленая трыма стрэлкамі на градусы. Цяпер трэба аднавіць сам гадзіннік...

## З архіва Венжык-Відаўскіх

Багушэвічавы творы пры яго жыцці былі вельмі папулярныя. Асабліва яны падабаліся сялянам. Не ўмеючы чытаць, яны завучвалі іх на памяць. А хто ведаў граматy, перапісвалі творы Мацея Бурачка ў свае альбомчыкі, сшыткі. Гэтак узнікалі рукапісныя зборнікі Багушэвічавых твораў. Да нашага часу дайшло некалькі такіх кніжак, у 1988 годзе я зрабіў іх невялікі агляд. І нечакана для сябе атрымаў на публікацыю водгук. І не ад каго-небудзь, а ад Генадзя Каханоўскага. 28 ліпеня 1988 года ён пісаў мне:

*"Даражэнькі Уладзімір Ілліч!*

*З прыемнасцю прачытаў Тваю публікацыю пра рукапісныя зборнікі Францішка Багушэвіча. Калі Ягамосцю будзе цікава, то хацеў бы "пахвастаць" яшчэ адной знаходкай зборніка слыннага паэта". І Генадзь Каханоўскі паведаміў, што ў фондах Гродзенскага гісторыка — археалагічнага музея ў асабістым архіве шляхціцаў Венжык-Відаўскіх, уладальнікаў маёнтака Відаўшчына Ашмянскага павета, знаходзіцца альбом — сшытак з творамі Францішка Багушэвіча — Мацея Бурачка. Сярод іх "Прадмова" да "Дудкі Беларускай" 1896 года выдання, верш "У судзе" ды іншыя. Сшытак гэты досыць тоўсты, пісаны алоўкам. Запісы на трох мовах: польскай, рускай і беларускай. Генадзь Каханоўскі раіў мне пацікавіцца гэтым сшыткам, выказаў меркаванне, што згаданы сшытак мог належыць Аляксандру Францішку Венжык-Відаўскаму. У сваім лісце Генадзь Каханоўскі паведаміў і кароткія звесткі пра Аляксандра Венжык-Відаўскага. Нарадзіўся 3 снежня 1876 года. Вучыўся ў Пецярбурзе. Усе звесткі гэтыя вельмі цікавыя. Застаецца адно адзінае: высветліць, чым прываблівала Венжык-Відаўскіх творчасць Францішка Багушэвіча, чым яна была ім сугучная? Але факт такі: сярод розных папераў Венжык-Відаўскіх ізняга радаводу, радаводнага дрэва, гэрбаў — ляжаць і творы Мацея Бурачка. І гэта надзвычай цікава".*

...Не гэтак даўно па маёй просьбе супрацоўнікі Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея прыслалі ксеракопіі твораў Мацея Бурачка з архіва Венжык-Відаўскіх. З цікавасцю перачытаў іх, звeрыў з арыгіналамі: слова ў слова, літарка літарцы адпавядаюць. Безумоўна, хацелася б даведацца, ці былі якія асабістыя стасункі паміж Багушэвічам і Венжык-Відаўскімі і наогул з беларускай культурай. Але гэта ўжо справа часу і новых пошукаў. А імпульс да гэтага маем. Колішняя сядзіба Венжык-Відаўскіх — Відаўшчына — цяпер у Маладзечанскім абшары. Мелі яны нерухомую маёмасць і ў Гродні па вуліцы Паліцэйскай (N 248-5) — XIV — пачатак XX ст. Здаецца, на гэтай вуліцы жыла некаторы час і Каралева жывога слова — Эліза Ажэшка.

## Лёсаносныя лічбы

Тры даты з нашай гісторыі: 1791—1891—1991. Што аб'ядноўвае іх?

1791-ы... Вясною гэтага года магнаты і апалячаная беларуская шляхта падчас Вальнага Сойму, імкнучыся ўмацаваць Польшчу, над якой навісла пагроза з боку Аўстрыі, Прусіі і Расіі, заявілі пра ўвядзенне спадчыннай манархіі і ліквідацыю адметных дзяржаўных структураў Вялікага княства Літоўскага. Так беларускае гаспадарства з гэтага моманту дэ-юрэ ўвайшло ў склад Польшчы з адзіным кіраваннем, адзіным бюджэтам. Трэцяга мая 1791 года быў прыняты і асноўны закон Рэчы Паспалітай — Канстытуцыя. На працягу цэлага стагоддзя з 1791 па 1891 год Беларусь перажыла не адну гістарычную катаклізму. Яна нібы анямела, аглухла пасля таго Вальнага Сойму.

*(Працяг на стар. 14—15)*

# Міхал АНЕМПАДЫСТАЎ:

# "За сваім сталом абы-што не спяваюць"

***"Народны альбом" — вольны песенны пераказ заходнебеларускага жыцця ў міжваенны перыяд.***

***Ён дагэтуль знаходзіцца на першых радках у хіт-парадах беларускамоўнай музыкі. А на канцэрце "Народнага альбома" напрыканцы лютага канцэртная зала "Мінск" была паўнюткай. Прычым публіка ведала на памяць увесь рэпертуар і разам з Лявонам Вольскім выконвала ўлюбёную "Надзеньку". Але, нягледзячы на папулярнасць, гэты канцэрт стаў у Беларусі па ліку толькі другім публічным выступам.***

***Пра гэтую акалічнасць і наогул пра лёс "Народнага альбома" мы і пагаварылі з аўтарам ідэі і большасці тэкстаў Міхалам АНЕМПАДЫСТАВЫМ.***

**— Міхал, вядома, рэдкае канцэртаванне дадае легендарнасці і ажыятажу. Ці справа ў чым іншым?**

— У прынцыпе, натуральна, што адсутнасць "Народнага альбома" на Беларусі паўплывала на тое, што шмат людзей прыйшло на названы канцэрт. Але гэта не было зроблена наўмысна. Проста так атрымалася, бо арганізацыя падобных акцый вымагае вялікіх намаганняў і выдаткаў. Наогул рок-канцэрт — дарагая рэч, а тым больш калі задзейнічана шмат выканаўцаў, калі выкарыстоўваюцца разам электрычныя і акустычныя інструменты, калі гэта зала на тысячу з лішкам месцаў.

Да нас ніхто ад шоу-бізнесу з прапановай не звяртаўся. Ненармальна, калі музыкі самі займаюцца арганізацыяй канцэрта. Мы папросту юрыдычна не маем права займацца. Дый за два гады існавання "Народны альбом" нікім мэтанакіравана не "раскручваўся".

**— А ён неяк "самараскруціўся"!**

— Таму канцэрт і атрымаўся. Для беларускай рок-тусоўкі гэта падзея. Значыць, можна ўласнымі намаганнямі правесці паўнавартасную акцыю. Прычым, мы змаглі частку білетаў прапанаваць па кошце ад 1,5 да 1,8 тысячы, каб на канцэрт магла патрапіць абмежаваная ў матэрыяльных магчымасцях моладзь. Ну і трохі даражэй — да 3,5 — для людзей сталых. У Мінску наогул даўно такіх коштаў няма, што ніжэй за 2,5 тысячы.

**— Шмат хто стараецца прайсці задарма. Але, здаецца, нават танныя альбо сімвалічныя кошты квіткоў на мерапрыемствы з беларускімі зместам і формай, у тым ліку на рок-канцэрты, міжволі выглядаюць прыкметай непаўнавартасці нацыянальнай культуры. Наўошта ўласнаруч ствараць небяспечны стэрэатып?**

— Ёсць такое. Рэжым спрыяння беларускаму, у прыватнасці цэнавы, павінен быць, калі гэта мажліва. Як з боку дзяржавы, гэтак і з боку творцаў. Мы ж тут не чужыя. Але ўсё ж у гэтым ёсць пэўная ненатуральнасць. Як быццам гульня нейкая. Парадоксальна... Беларуская культура, каб развівалася, павінна фінансавацца ў першую чаргу за наш уласны кошт. Тым больш, што ёсць звычайныя эканамічныя законы, якія варта разумець і паважаць, калі мы хочам жыць па-людску.

**— Міхал, калі нажываю "Народны альбом" прагучыць у наступны раз?**

— Я думаю, што наступны канцэрт адбудзецца не менш як праз год. Пры ўмове, што ён застанецца актуальным і цікавым. Бо, па-першае, "Народны альбом" — досыць груваская структура. Гэта 13 чалавек: увесь N.R.M., "Крыві", Кася Камоцкая з "Новага неба", Слава Корань з "Уліса", Саша Памідораў, Сяргей Ахрамовіч, Юля Глушыцкая, Анатоль Додзь. У кожнага свой расклад працы. Сабраць усіх разам складана. Па-другое, маштабны праект варта прадстаўляць публіцы праз нейкі час. Каб проста не "заездзіць". Гэта ў Мінску. А ў іншых гарадах "Народны альбом" хочам паказаць бліжэйшым часам. Бо ёсць дысбаланс паміж нашай канцэртнай дзейнасцю за мяжой і ў Беларусі.

**— Так, гастралявалі вы там багата, асабліва ў Польшчы. Цікава, як палякі ўспрымаюць "Народны альбом"?**

— У Польшчы другім агульнанацыянальным каналам была зроблена тэлевізійная версія "Народнага альбома". Менавіта тэлевізійная версія, а не канцэрт, зняты тэлевізіяй. Гэта калі мы выступалі ў Кракаве, на адкрытым паветры ў Барбакане (помнік архітэктуры катэгорыі "нуль" — сусветнага значэння). Перад тым гралі ў познаньскім клубе "Эскулап", дзе сабралася лявацкая інтэлектуальная моладзь, анархісты, панкі, мастакі, музыкі. Былі яшчэ канцэрты перад больш кансерватыўнай публікай у Варшаўскім Малым тэатры, у Бельску, у Беластоку. Прымалі класна. Такі факт: канцэрты "Народнага альбома" былі прызнаныя ў ліку 50 найбольш важных культурных падзей 1998 года паводле рэйтынгу "Газэты Выборчай" ("Gazeta Wyborcza").

**— Праўда, што ў Польшчы не выконвалася песня "Пад прыгнётам панскім"?**

— Проста яна не зусім канцэртабельная. Ёй цяжка пачынаць, а пачатак канцэрта мусіць быць атракцыйным, інтрыгуючым, каб адразу "ўзяць" публіку. Часу на ўсталяванне кантакту з залай няма. А тут, у Мінску, выконвалі, бо "Пад прыгнётам панскім" добра знаёмая беларускай публіцы па касеце.

Карацей, не з-за нейкай антыпольскасці. Так можна прыцягнуць сюды за вушы і "Казіка", і "Ja spiewam po polsku". Палякі цудоўна разумеюць іронію і ведаюць гістарычны кантэкст. А ў нас маладзейшыя ўяўляюць яго цьмяна, і даводзіцца тлумачыць менавіта кантэкст, бо "Народны альбом" — не падручнік па гісторыі, а вольны пераказ.

**— А што з ідэяй стварыць паводле "Народнага альбома" спектакль?**

— Была прапанова ад Мікалая Пінігіна напісаць п'есу паводле матываў. Мы з Лявонам Вольскім, улічваючы пінігінскую стылістыку, напісалі. Падганялі сюжэт пад песні. Натуральна, звычайна так не робіцца. Мы зрабілі ўсё наадварот. Пінігін матэрыял ухваліў. Такім чынам, ёсць п'еса, а лепш сказаць, сцэнарый для спектакля, ёсць выдатны рэжысёр — няма "дробязі" — фінансавання. Хаця, па праўдзе кажучы, гэта не здзіўляе.

**— Увявім, што праца над пастаноўкай пайшла. Хто, скажыце, будзе спяваць у ім — Вольскі, Камоцкая, Круглова?**

— У любым выпадку гэта мусіць вырашаць рэжысёр. На маю думку, і самі акцёры маглі б спяваць, і музычнае суправаджэнне магло б быць жывым.

**— Канцэрт выразна адрозніваўся ад таго, што на касеце. Не збіраецеся ажыццявіць удасканаленае касетнае перавыданне?**

— Гэта варта было б зрабіць. Менавіта ў жывым канцэртным выкананні. Але, на жаль, вось гэты лютаўскі канцэрт мы не запісалі. Можа, праз месяц у Кіеве запішам, дзе 12 красавіка будзем граць на фестывалі "Мистецьке Березілля".

**— Міхал, як вам здаецца, колькі яшчэ можа пратрымацца запатрабаванасць "Народнага альбома" на цяперашнім узроўні папулярнасці і актуальнасці?**

— Мы маем кола менавіта сваіх слухачоў. З усёй Беларусі гэта адносна невялікі адсотак. І для гэтых людзей "Народны альбом", мне здаецца, будзе надалей актуальны. Як заўсёды будзе актуальнай, напрыклад, "Крама", "Бонда", N.R.M., "Крыві", "Уліс", "Новае неба". У гэтым плане ў нас значна лепшыя перспектывы, чым у поп-выканаўцаў. Бо "Народны альбом" не папса, што робіцца "на адзін дзень", раскручваецца FM-станцыямі, і гэтак жа імкліва знікае. Так, наша музыка можа менш слухацца з цягам часу, можа "прыесціся", але не знікне без следу. Пры ўсіх праблемах, якія ёсць, праца ў рэчышчы беларускай культуры — гэта праца пачэсная. Культура жыве, фармуецца, робіцца зараз, таму тое, што ёсць вартасным, новай цаглінай кладзецца ў Беларускі Дом. І мне здаецца, што мае сябры-музыкі ўмуравалі туды не адну цагліну. Беларускі рок-н-рол робіць гэта эфектыўна.

**— Мо будуць "Народны альбом — 2, 3..."? Па аналогіі, толькі на іншы гістарычны перыяд?**

— У прынцыпе, гэта немажліва.

**— Чаму? Узяць іншыя гады...**

— Якія?

**— Ну хоць бы з 45-га па 90-ы ці з 21-га па 39-ы на бээсэсэраўскай тэрыторыі.**

— Мне нецікава ствараць паэтычна-музычную версію таго, што адбывалася ў БССР. Мы ж узялі Заходнюю Беларусь, бо то быў агульнаеўрапейскі кантэкст. Пра які добра сказаў Севярын Квяткоўскі ў "Нашай ніве": "Сентымент да эпохі 20—30-х гадоў жыве ці не ва ўсёй Еўропе. Бо ж гэта быў кароткі і радасны перадых між жахамі дзвюх войнаў". Ёсць яшчэ адзін такі перыяд, цікавы і прыгожы — 50—60-ыя гады. Хіпі. Студэнцкі бунт. Дзеці кветак. Але ці было гэта на Беларусі?

**— У "Народным альбоме", апрача аўтарскіх, адмыслова стылізаваных тэкстаў, ёсць некалькі аўтэнтычна народных...**

— Гэта кампіляцыя з трох (вясельная, застольная і проста вясёлая) габрэйскіх песень пад агульнай назвай "Ломір зэх і бэрбэтн", што перакладаецца як "давай памірымся", а таксама "Надзенька" з гэтак званых "удовіных песень" беларускага паваеннага фальклору. Разам з тым гэта яркая метафара лёсу Беларусі.

**— А як, Міхал, вам здаецца, ці сталі "народнаальбомаўскія" песні застольнымі? Колькі разоў я нешта падобнае бачыў.**

— Пра гэта можна толькі марыць. За сталом, тым больш за сваім сталом, абы-што не спяваюць.

Гутарыў
**Кірыла ПАЗНЯК**

# Суфлёр

## ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

### ЭКРАН

**Беларускае тэлебачанне**

*25 сакавіка, субота, 9.10* — "Кнігазбор" з двума сюжэтамі: пра VII Міжнародны кніжны кірмаш у Мінску і пра гасцяванне ў нас французскага пісьменніка Патрыка Бэсона. Між іншым, сёння ў Лінгвістычным універсітэце, а заўтра ў выставачным комплексе "Мінскэкспа" французскае пасольства ладзіць з ім сустрэчы.

*26 сакавіка, нядзеля, 11.55* — "Беларускі дом" знаёміць з выдаўцом Віктарам Хурсікам, гарадзенскім мастаком Мікалаем Лук'янавым і светлагорскім майстрам па дрэве Васілём Кавалём. Як звычайна, гістарычная тэлевандроўка — на гэты раз у Ліду.

**Кінатэатр "Змена"**

*19 сакавіка, нядзеля, 15.00* — кінапраграма з удзелам заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Уладзіміра Пузыні, пра якога пакажуць тры стужкі — "Цымбальныя званы", "Такі вось лёс", "Майстар успамінае і разважае". Выступяць таксама артыстка Тацяна Мархель, кінарэжысёр Вадзім Сюмакоў, мастак Алесь Марачкін.

*20—26 сакавіка, 14.00 і 18.00* — дакументальны фільм "Жыві у свабодзе" рэжысёра Сяргея Пятроўскага па сцэнарыі Уладзіміра Халіпа. Паказ прымеркаваны да дня смерці (22 сакавіка 1864 года) Кастуся Каліноўскага.

*21 сакавіка, аўторак, 17.00* — ТБМ праводзіць вечарыну з нагоды 160-х угодкаў з дня нараджэння Францішка Багушэвіча. Будзе паказаны дакументальны фільм "За Кушлянамі снег" Міхася Жданоўскага. У дадатак — прэзентацыя бестселераў апошніх месяцаў, кніг Кастуся Тарасава "Беларусь" і "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" Уладзіміра Арлова і Генадзя Сагановіча.

**Відэаклуб ТБМ**

*18 сакавіка, субота, 18.00* — легендарны і звышкасавы ў ЗША мультфільм "Гісторыя цацак".

*25 сакавіка, субота, 18.00* — "Адважнае сэрца". У Дзень Волі, відаць, будзе глядзецца з цікавасцю.

### ГАСЦЁЎНЯ

*23 сакавіка, чацвер, 18.00* — у вялікай зале Дома літаратара адбудзецца сустрэча з госцем з Беластока паэтам Віктарам Шведам, прымеркаваная да 75-й гадавіны з дня яго нараджэння.

### ВЫСТАВЫ

*21 сакавіка а 17 гадзіне* у Нацыянальнай мастацкай галерэі адкрыецца выстава графікі маладой мінскай мастачкі Е. Крысціцінай "Чорнае-белае".

*22 сакавіка а 17 гадзіне* у музеі Беларускай акадэміі мастацтваў адкрыецца выстава стыпендыятаў Спецыяльнага фонду прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі.

*23 сакавіка а 17 гадзіне* у Музеі сучаснага мастацтва Р. Вашкевіч і Л. Нацэўскі прадставяць выставу "Гішпанскі праект".

### ЗАПРАШАЕМ

Таварыства беларускай школы і Таварыства беларускай мовы ласкава запрашаюць Вас узяць удзел ва ўрачыстасці, прысвечанай падвядзенню вынікаў конкурсу на лепшую ў захаванні нацыянальнай і гістарычнай спадчыны беларускую вясковую школу.

Урачыстасць мае адбыцца *18 сакавіка 2000 года ў 11 гадзін* на вул. Магілёўскай, 37 (факультэт народнай культуры Беларускага педагагічнага універсітэта імя М. Танка). Даведкі праз тэл.: 227-49-74 (дэканат ФНК); 284-85-11 (сядзіба ТБМ).


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| **прыёмная рэдакцыі —** | **284-8461** |
| **намесніка галоўнага рэдактара —** | **284-8525, 284-7985** |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| **публіцыстыкі —** | **284-8204** |
| **пісьмаў і грамадскай думкі —** | **284-7985** |
| **літаратурнага жыцця —** | **284-8462** |
| **крытыкі і бібліяграфіі —** | **284-7985** |
| **паэзіі і прозы —** | **284-8204** |
| **музыкі —** | **284-8153** |
| **тэатра, кіно і тэлебачання —** | **284-8153** |
| **выяўленчага мастацтва, ахоўы помнікаў —** | **284-8462** |
| **навін —** | **284-8462** |
| **мастацкага афармлення —** | **284-8204** |
| **фотакарэспандэнт —** | **284-8462** |
| **бухгалтэрыя —** | **284-8462** |





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 16.03.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 1368

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12